PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (2227) Год XLIV Беласток 17 студзеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Пасварыліся, памірыліся

Мікола Ваўранюк

**Антон Міранові напрыканцы снежня 1998 г. стаў трэцім намеснікам старшыні Гарадской рады Беластока. Адбылося гэта ў атмасферы скандалу. Газеты прарочылі раскол клуба левых і праваслаўных радных. Адзін з лідэраў гэтага клуба, Міраслаў Гануш нават заяўляў, што Мірановічу больш рукі не падасць.**

Мінулагодняя самаўрадавыя выбары ў Беластоку выйграла, згодна са спадзяваннямі, Выбарчая акцыя „Салідарнасць”. І то так, што самастойна назначыла прэзідэнта і ўсю ўправу горада, а ў Гарадской радзе шэфаў паасобных камісій, старшыню рады і двух яго намеснікаў. Трэцяга намесніка перамоцы высакародна аддалі апазіцыі, аднак адразу заявілі, што... адпаведным чалавекам на гэтую функцыю быў бы Антон Мірановіч. Свае слова, што не пагодзяцца на абы-каго, стрымалі, два разы адкідаючы кандыдата левых Ежы Пул'яновіча.

Апазіцыя ў Гарадской радзе Беластока, гэта, як напісаў публіцыст штодзёнкі „Кур'ер паранны”, посткамуні-

[працяг ☞ 3]

**Намеснік старшыні Гарадской рады Беластока Антон Міранові:**

Гэта прэстыжная функцыя. Намеснік старшыні можа прымаць удзел у пасяджэннях камісій Гарадской рады. Мае магчымасць кантраляваць працу Управы горада, што асабліва важна пры падрыхтоўцы гадавога бюджэту. Можа выступаць з заканадаўчай ініцыятывай без збірання пад ёю подпісаў пятнаццаці радных.

Я сваю ролю бачу ў тым, каб прадстаўляць на пасяджэннях Гарадской рады справы беларускага і праваслаўнага асяроддзя. Буду старацца, каб у гарадскім бюджэце была пастаянная рубрыка: датацыя меншасцям. Хачу, каб сёлета горад дафінансаваў розныя ініцыятывы беларускіх і праваслаўных арганізацый сумаю ў 50 тысяч злотых.

Лічу істотным пашырэнне адміністрацыйных межаў горада на Засцянкі і Дайліды-Гурнэ. Гэтыя мясцовасці прытыкаюць да Беластока, але адна належыць да Супрасльскай гміны, а другая — да Заблудаўскай. Гадамі не было там ніякіх інвестыцый, а па нішчэючых дарогах ездзяць, напрыклад, нашы аўтобусы. Ужо паявіліся галасы, што фірмы, якія абслугоўваюць гарадскі транспарт, не хочуць пасылаць туды аўтобусаў. Умовы жыцця людзей у Засцянках і Дайлідах-Гурных, на маю думку, паправяцца, калі стануць яны часткамі Беластока. А трэба памятаць, што жывуць там, у вялікай колькасці, беларусы.




*Аўгустаў звычайна асацыюецца з раскошамі лета: азёрамі, парусамі, каханнем...*

## Да Лукашэнкі па справядлівасць

Ганна Кандрацюк

**„Чаго мне беларускай бяды баяцца? Там жа зарабляюць дзесяць долараў і жывуць! То я за сваю рэнту, дзвесце долараў, зажыву як пан вялікі”. Але не польска-панская манія папхнула Рышарда Клімкоўскага, „паляка з крыві і косці”, папрасіць прытулку ў Беларусі.**

— Я за справядлівасць змагаюся, — кажа сямідзесяцігадовы пенсіянер з Аўгустава.

*Добра было пры цары і камуне*

Аўгустаў звычайна асацыюецца з раскошамі лета: азёрамі, парусамі, каханнем. Зімоваю парой тут маркотна і сумна. Сонныя вуліцы, крамы з паношанай вопраткай, апусцелыя бары-забягалаўкі. Паколькі летам гастранамічныя паслугі тут параўнальныя з іспанскімі, зімой яда ў іх таннейшая чым у беластоцкім бары „Падляс্যак”.

— Толькі пры камуне інтарэсы ішлі поўным ходам. І старыя людзі расказваюць, што яшчэ пры цары так добра жылося, — кажа ўласнік бара пры галоўнай вуліцы.

*Прыезджых збіваюць з панталыку*

Цяжка ў Аўгуставе адшукаць жаданую вуліцу. На пытанне пра Яцвяжскую жыхары пацiскалі плячыма або прыкідваліся нетутэйшымі. Складалася ўражанне, што аўтахтоны карыстаюцца толькі вядомымі сабе назвамі і мянушкамі, каб збіваць з панталыку ўсякага роду навалач. Добра, што ў канцы падпіты прахожы падказаў мне, што жаданая вуліца гэта квартал „Баракі”. Ведаючы гэтую цэнную дэталь усе далей сустрэтыя беспамылкова паказвалі дарогу.

— А каго там шукаеце? — пацікавілася маладзіца ў штучным футры.

Пачуўшы адказ кабета таямніча ўсміхнулася.

— To sama z redakcji będzie chyba?

— Jo, — адказала я па-мазурску.

*На вуліцы абазваў ад беларусаў*

— Калі б мы папрасілі прытулку ў Амерыцы, ніхто не звярнуў бы на нас увагу, — кажа пра сябе і Шчапана Внукоўскага падобны на Лешка Мачульскага Рышард Клімкоўскі. — А так, усе пра нас пішуць, гавораць. У панядзелак пані з „Nie” прыедзе. Ды ўсё больш людзей да нас звоніць і хоча, так як мы, шукаць прытулку ў Беларусі. З самой аўгустаўска-сувальскай акругі сотня ахвотных назбіраецца.

У доказ сказанага Рышард Клімкоўскі паказвае спісак з чатырнаццацю прозвішчамі. Хвіліну пазней мой субяседнік зрабіў агаворку, што медыяльная слава не такая зноў салодкая.

— Нядаўна адзін асобень, публічна, на вуліцы, ад беларусаў мяне абазваў. Ды такімі прытым словамі сыпануў, што сорам паўтараць пры жанчыне.

*Беларусы — народ братні*

Рышарда Клімкоўскага хвалюе, калі дрэнна гавораць пра Беларусь і Лукашэнку.

— Там напэўна лепшая дэмакратыя за нашую, — кажа. — І беларусы народ братні, славянскі. Не раз размаўляў я з імі, як у Аўгустаў на рынак гандляваць прыязджалі.

[працяг ☞ 2]

## Іншым не было лепш

Умовы нацыянальнага жыцця славакаў не надта чым адрозніваліся ад тых, якія мелі беларусы на Беласточчыне. Праз іх вёскі таксама праходзілі мясцовыя „Бурыя”, толькі што зваліся яны „Огнямі” ці „Югасамі”. Колькасць ахвяр была прыблізна такая ж самая, хаця славакаў на Спішы і Араве жыло ў дзесяць разоў менш чым беларусаў на Беласточчыне.

[пра славацкую меншасць ☞ 4]

## Клопат — беларуская кніга

„Мастацкая літаратура” — апошні фарпост беларускіх пісьменнікаў. Так, некаторыя кнігі яшчэ выдаюцца. Ды цяпер нават Караткевіч не „ідзе” так як раней... І ў свеце нас мала ведаюць, мала перакладаюць. Раней кнігі беларускіх аўтараў выходзілі і ў Францыі, і ў Кітаі, і ў Манголіі і ў іншых краінах, а перш за ўсё ў перакладах на мовы народаў СССР.

[размова з пісьменнікам ☞ 5]

## „Цябе, мая думка, Радзіма прытуліць...”

Тодар Лебяда ўпершыню ў беларускай літаратуры смела і адкрыта ў сваёй творчасці адлюстраваў жахі сталінскіх рэпрэсій, паказаў наўмыснае знішчэнне беларускай нацыі. Імя літаратара на працягу чатырох дзесяткаў гадоў было забыта і выкрэслена з беларускай гісторыі. Але час вяртае свае таленты з небыцця.

[партрэт ☞ 8]

## Святое месца ў Такарах

Штогоду на трэці дзень Святой Тройцы і ў дзень ушанавання Іконы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць” да ўрочышча ў Катэрцы ад дзесяткаў гадоў масава прыбываюць паломнікі. Дзяржаўная граніца, якая ўсталявалася пасля II сусветнай вайны, аддзяліла цудоўнае месца ад роднага прыхода і прыпыніла прыток паломнікаў з усходняга боку.

[нарыс ☞ 9]

## Аб вайне і арлянскіх яўрэях

Яўрэі ў Орлі былі вельмі інтэлігентныя і культурныя людзі. Я пры іх жыла дваццаць пяць гадоў, але ніколі не бачыла п'янага яўрэя. Займаліся яны пераважна гандлем. Тады не было праблемаў з продажам збожжа, каня ці гусей.

[успамін ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Адкрыты ліст Ельцыну

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Сямён Шарэцкі, былыя старшыні Вярхоўнага Савета 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб накіравалі ліст да прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.

У ім яны выказваюць сваю нязгоду з падпісаннем 25 снежня ў Маскве чарговай дамовы пра аб'яднанне Беларусі з Расіяй. Старшыні Вярхоўных Саветаў незалежнай Беларусі шкадуюць, што Ельцын не змог утрымацца „перад бальшавіцкай напорыстасцю і шаманскімі заклінаннямі звычайнага дырэктара саўгаса, які па іроніі лёсу стаў беларускім прэзідэнтам". У лісце нагадваецца, што Ельцын паставіў свой подпіс у 1991 годзе пад Белавежскімі пагадненнямі, „якія паклалі крэс імперскім дамаганням Расіі на Украіну і Беларусь".

„Нельга не разумець, што любое змяненне дзяржаўнага статусу Рэспублікі Беларусь, якая спрабуе здзейсніць канчаткова збанкрутаваўшы рэжым Лукашэнкі, не можа лічыцца легітымным, бо сам гэты рэжым перастаў быць законным пасля лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 года..."

Сямён Шарэцкі, Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб заяўляюць, што планаванае аб'яднанне краін „мы — беларусы — будзем разглядаць як акупацыю Беларусі Расіяй. Мяркуецца, што і рэакцыя міжнароднай супольнасці будзе адэкватнай дзеянням Расіі".

„Акупаваўшы Беларусь, Вы паступіце так, як паступіў Сталін з Літвой, Латвіяй і Эстоніяй", — папярэджваюць Ельцына беларускія палітыкі.

**Зміцер Кісель**

## Пасля Навагодняй ночы выпілі ўсю мінералку

Гарадзенцы, як ужо стала традыцыйна, сустрэлі Новы год пад гукі выбухаў петард і бляск штучных агеньчыкаў. Ніякія забароны продажу не перашкодзілі гарадзенцам зрабіць запасы святочных выбуховых прыстасаванняў.

У дванаццаць гадзін ночы 31 снежня з усіх канцоў Гродна ў неба ляцелі ракеты і феерверкі. Аўтар гэтых радкоў назіраў за гэтым відовішчам з даху 9-павярховага дома і можа засведчыць, што Гродна ў Навагоднюю ноч выглядала надзвычай прыгожа.

У параўнанні з мінулым годам, гарадзенцы сталі больш асцярожна адносіцца да петардаў. Толькі тры чалавекі звярнуліся па дапамогу ў траўмапункт пасля таго, як атрымалі лёгкія пашкоджанні пальцаў рук у выніку выбуху петарды. Не было зафіксавана і пажараў ад святочных агнёў, але, на жаль, за першыя тры дні ў вобласці адбыўся аж дваццаць адзін пажар, чатыры чалавекі загінулі. Па звестках абласнога цэнтра супрацьпажарнай прапаганды, другога студзеня ў вёсцы Путрышкі Гарадзенскага раёна 36-гадовы мужчына ўключыў радыёпрайгравальнік і заснуў. У выніку кароткага замыкання адбыўся пажар. Чалавека выратаваць не ўдалося. Ён задыхнуўся ад дыму. Другія дзве ахвяры страцілі жыццё пасля неасцярожнага курэння ў ложку. У вёсцы Валокі Карэліцкага раёна загінуў 53-гадовы мужчына, а ў Ашмянах 28-гадовы інвалід III групы. У вёсцы Ліпкунцы Воранаўскага раёна 32-гадовы электрык мясцовага калгаса, знаходзячыся ў нецвярозым стане, абліў сябе бензінам і падпаліў.

На шчасце, большасць жыхароў Прынямоння сустракала Новы год у добрым настроі і не рабіла сабе шкоды. Каб святы прайшлі без эксцэсаў, ноччу з 31 снежня на 1 студзеня міліцыя несла ўзмоцненае дзяжурства. Так, у Гродне каля 10 ёлак, што былі выстаўлены ў горадзе, за парадкам сачыла сто міліцыянераў з абодвух гарадзенскіх раённых УУС.

У Гродне цяжкіх злачынстваў не было, а вось у прыгараднай вёсцы Пышкі каля чатырох гадзін раніцы два п'яныя мужыкі абмяняліся нажавымі ўдарамі. Абодва змешчаны ў бальніцу.

Наогул, гарэлку пілі паўсюдна і шмат. Гэта пацвярджае той факт, што 4 студзеня ў Гродне немагчыма было купіць мінеральнай вады.

**Зміцер Кісель**

## Паэту няма месца ў музеі паэта

30 снежня вядомая беларуская паэтка Данута Бічэль-Загнетава была звольнена з музея Максіма Багдановіча ў Гродне.

Спадарыня Данута стварала музей з 1982 года. Пасля адкрыцця ў 1986 годзе была яго нязменным дырэктарам. Усе экспанаты сабраны яе намаганнямі. Шмат бясцэнных дакументаў увайшло ў музейныя фонды з асабістых архіваў паэткі.

За гады працы музея ў ім пабывалі тысячы наведвальнікаў з усіх куткоў свету. Яны прыходзілі не толькі, каб паглядзець экспанаты, а ішлі „ў музей да Дануты". Паэтка дасканала ведае ўсе звесткі пра Максіма Багдановіча і яго сям'ю, пра літаратуру Гарадзеншчыны.

Хто раскажа пра сустрэчы Максіма Багдановіча з Зоськай Верас лепш за таго чалавека, які чуў пра іх з вуснаў самой знакамітай паэткі? Хто раскрые людзям веліч Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча лепш за іх шматгадовую сяброўку?

Данута Бічэль-Загнетава стала душой музея Максіма Багдановіча. Без яе існаванне гэтага музея здаецца немагчымым.

Напярэдадні Новага года без усялякага папярэджання яе выклікалі ва ўпраўленне культуры аблвыканкама. Загадчыца ўпраўлення Людміла Кадзевіч азнаёміла спадарыню Дануту з загадам аб звальненні, які падпісаў старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко.

Поўнага творчых сілаў чалавека пазбавілі любімай працы ў сувязі з пенсійным узростам.

Упершыню за ўсе гады існавання музея, у час школьных канікулаў, калі ў Дом Максіма Багдановіча заўсёды прыходзіла шмат дзяцей, яго дзверы былі зачынены і апячатаны.

**Зміцер Кісель**

## Да Лукашэнкі па справядлівасць

[1 ☞ працяг]

Мой субяседнік — чалавек адукаваны, педагог па прафесіі. Нарадзіўся ў Варшаве, але калі загінулі бацькі, апынуўся ў сірочым прытулку непадалёк Аўгустава. Цёпла ўспамінае савецкія настаўнікі, якія апекаваліся ім і выхоўвалі ў час вайны.

— З рускімі заўсёды дагаваруся, — кажа, — не то, што з англасаксонцамі якімі.

***Не адчуваю сябе бяспечна***

Шчапан Внукоўскі, прыватны прадпрымальнік з вуліцы Яцвяжскай, наракае на мафійныя парадкі ў горадзе. Яго панадворак напамінае барыкаду. Ля плота шмат разбітых машын. Старая, занядбаная хатка з запэцканымі фіранкамі цалкам маскіруе панадворак, быццам спаўняе ролю вартоўні. За брамай прывітаў мяне раз'юшаны ротвайлер. У белы мураваны дом, яшчэ не зусім закончаны, гаспадар вядзе мяне вузкім калідорам паміж гурбамі бярвення, ламачча і разбітых машын.

— Быў час, што пад'язджалі пад мой панадворак машыны і сачылі за кожным рухам, падслухоўвалі размовы, атруцілі сабаку, — дзве гадзіны Шчапан Внукоўскі расказвае пра сваё змаганне з мафіяй. — А пачалося пяць гадоў таму. Судзілі мяне як п'янага вінοўніка дарожнай катастрофы. Але я не здаўся. Бо, па-першае: не быў вінοўным, а перш за ўсё, не быў у п'яным відзе.

Мой субяседнік паказвае дваццаць папяровых папак з судовай карэспандэнцыяй.

— Як пачаў я змагацца за свае правы, на галаву пасыпаліся новыя няшчасці. Цяпер баюся, што змантуюць для мяне ўдзел у нейкім забойстве, — кажа.

Шчапан Внукоўскі разлічвае, што ў Беларусі дзяржава будзе бараніць яго чалавечыя правы.

— Бо ў Польшчы яны ўвесь час парушаюцца, — кажа.

***Абвінавацілі ў забойстве псіхапата***

Рышард Клімкоўскі лічыць свой горад гняздом злачынства і карупцыі. Паводле яго ў Аўгуставе — найважнейшая мафія.

— Ruscy by nie pozwolili u siebie na taki porządek, — кажа. — Pan Łukaszenko szybko by się z nimi rozprawił.

Рышард Клімкоўскі нервова расказвае пра свае праследаванні і клопаты ў судзе.

— Абвінавацілі мяне ў забойстве псіхапата. Але я не здаваўся, змагаўся. Праўда, пракурор адхіліў у канцы свае кашмарныя закіды. Смурод, усё ж, астаўся. І пачаліся клопаты. Найперш згарэў дом, пасля адкінулі прашэнне прыняць мяне ў дом спакойнай старасці. Бо такому суддзі, пра якога ў „Nie" пішуць, у вочы гаварыў, што пра яго думаю.

Мой субяседнік дэманструе скандальныя здымкі.

— Вось тут, — паказвае прылiплых у пацалунку людзей, — мая суддзя і мой адвакат.

На пытанне, адкуль у яго такія здымкі Рышард Клімкоўскі таямніча ўсміхаецца.

***Каб шанавалі мае чалавечыя правы***

— Хачу спакойна дажыць свае дні, — кажа Рышард Клімкоўскі. — Многа мне іх не асталося. У мяне больш хвароб, як у тыповай бабы, бо аж восем.

— А я хацеў бы жыць у дзяржаве, дзе шанавалі б мае чалавечыя правы, — кажа Шчапан Внукоўскі.

Абодва хацелі б пасяліцца ў Гродне, каб лёгка было даязджаць у Аўгустаў. Рышард Клімкоўскі за пенсіяй, а Шчапан Внукоўскі — да сям'і. Мае субяседнікі без энтузіязму гавораць пра новае жыццё. Найбольш залежыць ім, каб пра іхняе змаганне даведалася як найбольшая колькасць чытачоў. І тады свет асудзіць, на чыім баку справядлівасць!

**Ганна Кандрацюк**

## Прэзідэнт, рэзідэнт ці хамелеон?

Два словы — прэзідэнт і рэзідэнт, здаецца, амаль аднолькавыя па вымаўленні, але ж якія яны розныя па сваім значэнні, сэнсе.

Прэзідэнт — гэта чалавек, выбраная асоба, якая стаіць на чале дзяржавы і ўсяляк абараняе яе інтарэсы, інтарэсы яе народа (і асабліва карэннага, так бы мовіць, тытульнага).

Рэзідэнт жа — гэта таксама чалавек, але ўжо дыпламатычны прадстаўнік іншай дзяржавы (дарэчы, па рангу ніжэйшы за пасланніка), які таксама ўсяляк абараняе інтарэсы гэтай іншай дзяржавы і яе народа.

Калі чытаеш альбо чуеш словы чалавека аб тым, што „существуют вещи, через которые переступать я не имею права. Это — государственность и суверенитет". „Белоруссия не может войти в состав того или иного государства на правах района или губернии. Мы хотим равноправного сотрудничества", дык шчыра радуешся за такога вось чалавека і нават гатоў лічыць яго прэзідэнтам краіны.

Калі ж чытаеш альбо чуеш таго ж самага чалавека, які зноў жа не на сваёй роднай матчынай, а на той жа чужой мове заяўляе: „Я свою политику по отношению к России никогда не изменю. Убеждён, что Белоруссия и Россия будут вместе, как бы этому ни противостояли определённые силы", то гэтае выказванне асацыюецца ў мяне ўжо з другім словам — рэзідэнт.

Які парадокс, які дыяпазон поглядаў у гэтых відавочна процілеглых выказваннях аднае і тае ж асобы, якая супярэчнасць здароваму, разумнаму сэнсу!

У сувязі з гэтым міжвольна ўзнікае зусім заканамернае і лагічна абгрунтаванае пытанне, а менавіта: дык кім жа ўсё-такі на самай справе з'яўляецца вышэйшая па пасадзе асоба ў нашай загадкавай дзяржаве — прэзідэнтам ці рэзідэнтам? Альбо можа, якім-небудзь іншым дзівосным гібрыдам паміж гэтымі паняццямі?

Тут якраз дарэчы заўважыць, што чалавека, які так лёгка мяняе свае погляды ды перакананні, звычайна зневажальна, але даволі трапна, называюць хамелеонам.

А калі такі вось чалавек лічыць сябе яшчэ і палітыкам, дык ён моцна памыляецца. Не палітык ён, а сапраўдны авантурыст-прайдзісвет!

**Алесь Ляскоўскі**

# Перад Новым годам

31 снежня адбылося апошняе ў 1998 годзе пасяджэнне Гарадской рады ў Гайнаўцы, у час якога выбраны быў, між іншым, новы сакратар гміны, якім стаў Канстанцін Бяляўскі і павышаны былі аплаты за дзіцячыя садзікі і гарадскі транспарт.

Расказваючы пра дзейнасць управы горада, бурмістр Анатоль Ахрыцюк звярнуў увагу, што апошнім часам разглядалася ў Гайнаўцы справа пабудовы вялікага магазіна-маркета. Прапанавалася гайнаўскім купцам заснаваць суполку, якая стварыла б вялікі магазін, бо калі б нейкае заходняе прадпрыемства адчыніла свой маркет, многа купцоў магло б абанкруціцца. Гаворачы пра гарадскую ахову, бурмістр паінфармаваў, што зменены будзе характар яе працы. Больш увагі будзе яна адводзіць санітарнаму парадку ў горадзе і будзе кантраляваць праязныя білеты, а менш выручаць паліцыю ў нaгляданні за парадкам на аўтамабільных стаянках.

У час пасяджэння Гарадская рада прыняла пастанову аб павышэнні з 40 зл. на 45 зл. месячнай аплаты за пабыўку дзіцяці ў садку. Сярод радных паявіліся прапановы, каб жыхары гміны Гайнаўка плацілі за сваіх дзяцей поўную стаўку, але паколькі справа тычылася толькі адзінаццаці сем'яў, а поўная плата ў Гайнаўцы гэта 70-90 зл., дык у галасаванні перамаглі прыхільнікі аднолькавых коштаў для ўсіх дзяцей. Бурмістр абяцаў звярнуцца за фінансавай кампенсацыяй у гэтай справе да войта гміны Гайнаўка. Радныя павысілі таксама цану білетаў за праезд гарадскімі аўтобусамі з 90 грошаў на 1 злоты, так як і перавоз багажу.

З пасады сакратара горада адклікавы быў Ежы Сірак, які ад 1 студзеня пачынае працаваць намеснікам старасты Гайнаўскага павета. На яго месца назначаны быў Канстанцін Бяляўскі, які ўжо раней працаваў у самаўрадавай адміністрацыі юрыдычным кансультантам. Чатыры гады таму Канстанцін Бяляўскі балаціраваўся са спіска Беларускага выбарчага камітэта як кандыдат у Гарадскую раду.

Адказваючы на пытанні радных, бурмістр Анатоль Ахрыцюк паінфармаваў, што яшчэ за мінулай Рады купілі ад Кааператыва інвалідаў будынак для суда і падрыхтавалі неабходныя дакументы для яго прыстасавання да новых мэт. Рэформа судоў прадбачвае стварэнне ў кожным павеце гарадскіх судоў. Такі суд напэўна будзе створаны, але ідуць намаганні, каб стварыць у Гайнаўцы Раённы суд і адпаведныя дакументы пададзены ўжо ў Міністэрства юстыцыі. Ваяводскі суд у Беластоку падтрымлівае такую прапанову. Адказваючы на пытанне пра стварэнне ў Гайнаўцы фінансавага (казначэйскага) аддзела, бурмістр звярнуў увагу, што такога аддзела пакуль што няма, толькі ў двух павятовых мясцовасцях — Гайнаўцы і Сейнах і таму стварэнне яго павінна неўзабаве вырашыцца. Паведамілі таксама, што ўжо хутка Эканамічны камітэт, што дзейнічае пры ўрадзе, будзе разглядаць „Стратэгію для Белавежскай пушчы" і гэту нагоду можна будзе выкарыстаць для вырашэння важных спраў у Гайнаўцы.

Падчас пасяджэння Рады створана была таксама гарадская камісія для вырашэння алкагольных праблем, зацверджана было названне новастворанай вуліцы „Вясковай" і вырашыліся неабходныя справы для нармальнай працы ў горадзе. На заканчэнне старшыня Яўген Сачко пажадаў прысутным шчаслівага новага года і прыемнага святкавання праваслаўных Каляд.

**Аляксей Мароз**

# Пачынаюць працаваць паветы

29 снежня 1998 года адбылася III сесія Рады Гайнаўскага павета, у час якой прыняты быў, між іншым, статут і разглядаліся справы, якія неабходна было вырашыць перад пачаткам працы павятовых устаноў.

Старшыня рады Вольга Рыгаровіч напомніла пра парадак пасяджэння, які пасля кароткай дыскусіі амаль аднагалосна быў і прыняты. Стараста Уладзімір Пятрочук паведаміў пра дзейнасць управы, якая абмяркоўвала арганізацыйныя справы і падрыхтоўвала праект статута павета.

— Хаця мы дзейнічалі ўпоцемку, трэба было рабіць усё неабходнае, каб у новым годзе не прачнуліся мы з засыпанымі снегам дарогамі, каб нармальна маглі працаваць школы, нашы ўстановы і гаспадарчыя адзінкі, — гаварыў Уладзімір Пятрочук. — Ёсць ужо субсідыі, якія пойдуць у пачатку месяца на зарплаты для працаўнікоў асветы. Са спазненнем атрымалі мы праект бюджэтных датацыяў на 1999 год, які ацэньваем адмоўна. Мала там сродкаў на нармальную дзейнасць адміністрацыі, культуры, спорту. Не прадбачаны там грошы на турызм і адпачынак, а ўжо сёння тэлефанаваў кіраўнік турысцкай базы ў Белавежы, інфармуючы, што гэтая база будзе належаць павету. Праект не прадбачвае таксама канкрэтных сродкаў на дзейнасць Рады. Але падзел сродкаў яшчэ не канчатковы і, думаю, будзе яшчэ вырашацца ў пачатку года.

Адказваючы на інтэрпеляцыі, стараста Уладзімір Пятрочук інфармаваў, што Гайнаўскі павет будзе пераймаць шэсць школ: Комплекс лясных школ у Белавежы, Комплекс сельскагаспадарчых школ у Гайнаўцы, два Агульнаадукацыйныя ліцэі і Школу спецыяльнай вучобы. Пазней радныя адобрылі праект статута павета і зацверджаны рэгламент працы старацтва. Пазней радныя прынялі пастанову аб стварэнні Управы павятовых дарог і Цэнтра дапамогі для сям'і, а на пасаду скарбніка назначылі Анелю Маеўскую.

— Статут трэба было прыняць хутка, дык калі нават ёсць нейкія юрыдычныя памылкі, то будзем іх выпраўляць, — сказала старшыня Рады павета Вольга Рыгаровіч. — Што тычыцца Цэнтра дапамогі для сям'і, то калі будуць сродкі на яго дзейнасць, будзе ён вельмі патрэбны, бо людзей бедных і патрабуючых дапамогі ў нас многа. Калі гаварыць пра працу Рады, то ўжо пасля першых пасяджэнняў відаць, што радныя сур'ёзна ставяцца да сваёй працы, ніхто яшчэ і не пытаўся пра дыеты, усе працуюць на грамадскіх пачатках і думаю, што і надалей будуць клапаціцца і паспяхова рэалізаваць задачы, якія паставілі перад імі выбаршчыкі. Паколькі не прыняты былі яшчэ на працу стараста і яго намеснік, яны таксама многа працавалі на грамадскіх пачатках, рыхтуючыся да працы ад 1 студзеня.

На заканчэнне Рада павета пацвердзіла важнасць дзвюх ранейшых пастаноў, падпісаных яшчэ Раённай управай і гэтым самым прадоўжыла пагадненне ў справе камунікацыі, падпісанае з гмінамі і пагадненне падпісанае з Лясной управай у Гайнаўцы ў справе прыватных лясоў.

**Аляксей Мароз**

# Каб наступны год не быў горшы

30 снежня 1998 года адбылася III сесія Чаромхаўскай гміннай рады. Асноўнай яе тэмай было выкананне гадавога бюджэту гміны і вызначэнне новых ставак падаткаў.

Гадавы план фінансавых збораў у 1998 годзе склаў суму 233 675,70 зл., з чаго ў гмінную касу паступіла 216 214,84 зл. (92,2%). Адначасова заўважаецца, што сельскагаспадарчы падатак быў выкананы ў 99,8%, а падатак ад маёмасці — у 100,11%. Адмоўнай з'явай, якая паўплывала на невыкананне фінансавых збораў было тое, што ў гміне знаходзіцца шмат апусцелых гаспадарак, за якія ніхто не плаціць (няма карыстальнікаў). Не быў таксама выкананы план падаткаў ад адзінак, якія карыстаюцца праваздольнасцю (выкананы ў 98,1%). Даўжнікамі гміны застаюцца абанкручаны кляшчэлеўскі ГС (вінаваты за 1998 г. 537,43 зл., а за мінулыя гады 50 896,65 зл.) і спецыялізаванае прадпрыемства „БАСТ" — суполка з абмежаванай адказнасцю з Беластока, якое не ўплаціла 1 762,25 зл. за 1997 год і 6 427,75 зл. за 1998 г.

Да падаткаплацельшчыкаў гміна ў мінулым годзе паслала 798 напамінаў, якіх завінавачанасць склала 116 802,44 зл. Адносна шаснаццаці падаткаплацельшчыкаў пачалося адміністрацыйнае выкананне. Больш дысцыплінаванымі аказаліся ўладальнікі аўтамабільнага транспарту, якія рэгулярна плацілі падатак і таму ён у маштабе года быў выкананы ў 100%.

На працягу мінулага года ў гміну паступілі 73 прашэнні скасаваць фінансавыя задоўжанасці, з чаго толькі два былі адкінуты Гміннай радай. Апошняе 71 было адобрана і па той прычыне адпісана ў кошт падаткаплацельшчыкаў 8 591,06 зл. Найбольш прашэнняў паступіла ад жыхароў станцыі Чаромха (34) і вёскі Чаромха (16).

Калі справа тычыцца ставак падатку на бягучы год, дык у Чаромхаўскай гміне не будзе істотных перамен. За адзін квадратны метр жылога памяшкання чарамшукі заплацяць 0,84 зл., а ў кватарунку стаўка 0,36 зл. павышаецца на 0,40 зл. Адносна апошняй платы некаторыя радныя палічылі яе вельмі малой у параўнанні з планаваным павышэннем цэнаў. Аднак гэтыя сумненні развеяліся пасля паясненняў сакратара і войта гміны. З іх разліку выходзіць, што пенсіянеры і так заплацяць больш у гэтым годзе (каля 10 зл.) падатку за кватарунак, што намнога паменшыць іхні дамашні бюджэт.

Супярэчлівай справай аказаліся прапанаваныя платы за месца на базары. Радны С. Багроўскі прапанаваў павысіць цану на 2 зл. (ад карыстальніка), гэта абазначала б, што купец прадаўшы тавар з аўтамабіля плаціў бы не 6 зл. а 8 зл., а той, хто карыстаецца рыначнымі прылаўкамі не 10 а 12 зл. Паасобным гандлярам прапанавалася стаўку 3 зл. за метр. Радны Р. Верамюк не адобрыў гэтай прапановы, аргументуючы, што гэта адбівала б купцоў ад чаромхаўскага рынку. У выніку галасавання радныя засталіся пры меншых стаўках.

У час складання інтэрпеляцый паступілі два пытанні. Радны Шыкула прапанаваў прадоўжыць маршртут ПКС з Мядзвежыкаў у Чаромху (і назад). Дагэтуль аўтобус даходзіць толькі да Мядзвежыкаў. А ёсць шмат жыхароў, якім спатрэбіцца паехаць у Чаромху. Радны Філіманюк пацікавіўся справай пабудовы спартыўнай залы пры школе.

У адказ на першае пытанне войт заявіў, што па яго меркаванні з прадаўжэннем аўтобуснага маршруту не будзе клопатаў. Гмінная ўправа пашле ўжо зараз службовае пісьмо кіраўнікам Беластоцкага ПКС і пэўна пастулат будзе адобраны. Калі справа тычыцца спартыўнай залы, дык трэба крыху пачакаць. Аднак, у бліжэйшы час можна і ў гэтай справе зрабіць „прымерку", рыхтуючы дакументацыю. Радны Аніщчук заявіў, што мае інфармацыю пра скаргу жыхара Чаромхі да ваяводы на незаконны збор экалагічнай платы на дарожным пераходзе Полаўцы — Пяшчатка. Ананімны тэлефонны інфарматар выдаваў сябе за працаўніка гміннай управы і выступаў супраць арганізавання міжнароднага перахода для аўтамабіляў з умяшчальнасцю звыш 3,5 т. грузу. У час дыскусіі радныя аднагалосна рашылі правесці размову з гэтым чалавекам (імя і прозвішча якога ўсім добра вядомае) і канчаткова рашыць праблему аўтамабільнага транспарту на пагранічным пераходзе.

Сесія Гміннай рады закончылася навагоднімі пажаданнямі старшыні ГР Сяргея Смыка, які заявіў: „Мінаючы год нядрэнным быў для нас. Хацелася б, каб і наступны быў не горшы".

**Уладзімір Сідарук**

# Пасварыліся, памірыліся

[1 ☞ *працяг*]

стычныя левыя клерыкалы. Інакш кажучы, васемнаццаць радных, выбраных са спіска з дзіўнай назвай: Левыя і незалежныя „Разам". Расклад сілаў у апазіцыйным клубе такі: дзесяць чалавек Саюза левых дэмакратаў і восем „незалежных" прадстаўнікоў г.зв. праваслаўных асяроддзяў. Лідэр другой групоўкі Антон Мірановіч не прыйшоўся даспадобы СЛД. У клубе не было дастаткова галасоў, каб паставіць яго кандыдатуру. Пат.

28 снежня 1998 г. „левыя і незалежныя" прапануюць, каб намеснікам старшыні рады стаў праваслаўны Пётр Бурак. Ужо, аднак, не „разам". Славамір Назарук, ад свайго імя, паставіў контркандыдата — Антона Мірановіча. Нягледзячы на эмацыянальныя заклікі апазіцыі ўшанаваць яе выбар, большасць рады прагаласавала за Мірановіча. Гэта выклікала нервовыя рэакцыі лідэраў апазіцыі.

— Міpановічу залежыць толькі на тым, каб, як намесніку старшыні, даставаць 50 працэнтаў грошай больш, — сказаў Міраслаў Ганущ газеце „Кур'ер паранны". — Выбралі яго радныя Выбарчай акцыі „Салідарнасць" і можна сказаць, што цяпер увесь прэзідыум рады іхні. На пасяджэнні клуба Беластоцкай самаўрадавай кааліцыі Левыя і незалежныя „Разам" буду дамагацца выключэння Мірановіча і Назарука з клуба. Ад сябе дадам, што спадару Мірановічу больш рукі не падам.

— Па сваёй волі выходзіць з кааліцыі не хачу, — адказаў Антон Мірановіч, — але калі нас са Славамірам Назаруком выключаць, створым клуб праваслаўных радных. І будзе нас у ім больш, чым двух.

Кааліцыя, аднак, не разляцелася. Якраз у час гэтай напругі вярнуўся з паўгадовай пабыўкі ў Злучаных Штатах Амерыкі „вялікі адсутны" Уладзімеж Цімашэвіч. І, здаецца, не без яго бацькоўскай рукі адбылося прыцішэнне страсцяў і гістарычнае прымірэнне левых з праваслаўнымі.

— Міраслаў Ганущ на другі дзень прыйшоў да мяне з кветкамі, — кажа Антон Мірановіч, — перапрасіў за свае словы і павіншаваў з выбарам. Не толькі, што падаў мне руку, але яшчэ і мяне расцалаваў.

**Мікола Ваўранюк**

# Каліноўскі і нацыянальная ідэя

Набліжаецца 136 гадавіна выбуху Студзеньскага паўстання 1863 года, у якім змагаўся ўраджэнец маёнтка Мастаўляны Канстанцін Каліноўскі. Беларуская гістарыяграфія ўвяла яго ў пантэон нацыянальных герояў, а Беларуская савецкая энцыклапедыя называе яго „беларускім рэвалюцыянерам-дэмакратам і мысліцелем, кіраўніком паўстання 1863-64 гг. на Беларусі і Літве". Аднак пісьмовая спадчына Каліноўскага і характарыстыка яго асобы ў мемуарах ягоных паплечнікаў не пераконваюць мяне ў тым, што ягоным дзеяннем у ходзе паўстання спадарожнічала беларуская нацыянальная ідэя.

22 студзеня 1863 г. паўстанцкія ўлады выдалі маніфест, у якім аб'явілі паўстанне супраць Расіі за вызваленне Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Абазначала гэта магчымы захоп этнічна няпольскіх зямель былога Вялікага княства Літоўскага з карэнным беларускім, літоўскім, рускім і украінскім насельніцтвам. Такім чынам названыя землі з аднае залежнасці папалі б у другую, паколькі канстытуцыя ад 3 мая 1791 г. ператварала Рэч Паспалітую ў адну суцэльную польскую дзяржаву, у якой не прадугледжвалася месца для Беларусі і беларусаў.

Публіцыстыка Канстанціна Каліноўскага, асабліва „Пісьмо Яські — гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай", не змяшчае ў сабе клопату пра Беларусь, а некаторыя фармулёўкі разбураюць арэол беларускага змагара, створаны Каліноўскаму гісторыкамі і дзеячамі XX стагоддзя. Піша ён, што „урад польскі дае справядлівую вольнасць і веру бацькоў нашых". Беларускі селянін добра памятаў свабоду пад бізуном польскіх памешчыкаў, а абяцанай верай было каталіцтва. (У 6-м нумары „Мужыцкай праўды" заклікаў ён сялян пакідаць праваслаўе і пераходзіць на унію: „Бо хто не пяройдзе на унію, той сызматыкам застанецца, той як сабака здохне, той на тамтом свеце пякельныя мукі цярпець будзе!"). Таксама сцвярджэнне аб масавым удзеле ў паўстанні палякаў ва ўсёй Рэчы Паспалітай было пераўвялічана, бо ў сапраўднасці ўдзельнічала ў ім толькі польская шляхта польска-беларускага пагранічча.

Некаторыя гісторыкі стараюцца даказаць, што аўтарам гэтага пісьма не быў Каліноўскі і што напісаў яго нейкі польскі шавініст, карыстаючыся ягоным псеўданімам. Аднак усё паказвае, што аўтарам згаданага пісьма быў аднак Каліноўскі.

Адзін з кіраўнікоў партыі „белых" у Беларусі Якуб Гейштар нейкі час узначальваў паўстанцкі Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Пасля вяртання са ссылкі напісаў ён „Успаміны 1857-1865 гадоў", у якіх дадзены яскравыя характарыстыкі Каліноўскага і яго аднадумцаў, а гісторык Тадэвуш Корзан напісаў спецыяльна для гэтага выдання свае нататкі. З мемуарных запісаў Я. Гейштара і Т. Корзана вынікае, што ў тайных друкарнях Нацыянальнага ўрада, у тым ліку і ў беластоцкай тыпаграфіі, Канстанцін Каліноўскі выдаваў на беларускай мове газету „Мужыцкая праўда" і розныя пракламацыі. Таксама Агатон Гілер, удзельнік і гісторык паўстання 1863-1864 гадоў, пацвярджае, што ў тайнаіі друкарні Нацыянальнага ўрада ў Беластоку было выдадзена многа адозваў, рэдактарам якіў быў сам Каліноўскі. Паводле яго, гэта ён сам асабіста напісаў згаданае ўжо пісьмо Яські — гаспадара з-пад Вільні. Апрача таго, польскі гісторык Д. Файнгаўс паведамляе, што ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве знаходзіцца незавершаная праца бібліёграфа Станіслава Пісарскага з пачатку XX стагоддзя „Польскі перыядычны друк 1861-1864", якая змяшчае „Пісьмо Яські...", аналагічнае да тэксту ў А. Гілера. Пісарскі таксама пацвярджае, што аўтарам пісьма быў Каліноўскі. З уступу да незавершанай бібліяграфіі паўстанцкага друку можна даведацца, што Пісарскі быў зяцем сястры Агатона Гілера і таксама як той апошні збіраў тайную дакументацыю паўстання 1863-1864 гадоў.

10 мая 1863 года паўстанцкае кіраўніцтва аб'явіла дэкрэт аб стварэнні Часовага нацыянальнага ўрада. У дэкрэце гаварылася пра „братнія народы Літвы і Русі з Польшчай аб'яднаныя", што сведчыць аб тым, што паўстанцы імкнуліся аднавіць Польшчу ў межах 1772 года, значыць, разам з тэрыторыяй Вялікага княства Літоўскага. У адозве да народаў Еўропы паўстанцкі Часовы нацыянальны ўрад пісаў, што „няма Польшчы без Літвы і Русі". Ніхто з урада не абяцаў Каліноўскаму незалежнасці Беларусі, а паўстанцы змагаліся за Рэч Паспалітую з далучанымі да яе беларускімі землямі. Каліноўскі паслухмяна выконваў загады цэнтральных улад і тым самым праяўляў польскія нацыяналістычныя пазіцыі.

Васіль Ратч — генерал-маёр, памочнік начальніка артылерыі Віленскай ваеннай акругі, які восенню 1864 года атрымаў загад напісаць афіцыйную гісторыю паўстання, пісаў, што Каліноўскі змагаўся за незалежную Літву, а яго групоўка канчаткова хацела адарвацца ад Варшавы. Доказам гэтаму мелі быць надпісы на пячатках. У першай палове ліпеня 1863 года па загадзе Каліноўскага была зроблена пячатка з надпісам: „Rząd Narodowy. Litewski Komitet. Wolność. Równość. Niepodległość.", хаця Часовы нацыянальны ўрад зацвердзіў пячатку: „Rząd Narodowy. Wolność. Równość. Niepodległość." Разнабой у пячатках не з'яўляецца, аднак, доказам сепаратызму ў адносінах да Варшавы. Калі б рэальна існавалі такія памкненні, надпісы былі б зроблены на беларускай мове. Таксама ў перыядзе ад ліпеня 1863 да студзеня 1864 года не была выдадзена ніводная пракламацыя ці дэкрэт аб незалежнасці Літвы. Канфлікты ўнутры Літоўскага камітэта таксама не былі доказам імкнення да незалежнасці, бо і ў варшаўскім кіраўніцтве паўстання таксама не было згоды.

Калі выйшаў сёмы нумар „Мужыцкай праўды"? Са зместу вынікае, што яшчэ да стварэння польскага Нацыянальнага ўрада, паколькі ўпамінаецца ў ім толькі „польскі маніхвэст" ад 22 студзеня 1863 года. Пасля 10 мая 1863 г. усялякага роду паўстанцкія дакументы значыліся Нацыянальным урадам. Значыць, апошні нумар „Мужыцкай праўды" з'явіўся перад 10 маем 1863 года, а заклік да насельніцтва Літвы і Беларусі, ды „Пісьмо Яські..." — выйшлі ў чэрвені 1863 г.

Сам Канстанцін Каліноўскі выказваўся, што ён пастаўлены польскім урадам, патрабаваў падпарадкавацца яму, а працўнікам пагражаў агнём і шыбеніцай. Пісаў, напрыклад: „вы [народ літоўскай і беларускай зямель] ураду польскаму належыце", „ад імя польскага ўрада загадваю вам". Як бачна, у дзеяннях Каліноўскага нельга знайсці беларускую нацыянальную ідэю.

**Канстанцін Масальскі**

# Іншым не было лепш

Неўзабаве міне чарговая сумная гадавіна пацыфікацыі атрадам нацыяналістычнага польскага падполля беларускіх вёсак на Беласточчыне. Памардаваныя жыхары Заняў, Заляшанаў, Канцавізны, Вулькі-Выганоўскай, Патокі пакуль не дачакаліся нават мемарыяльнай дошкі, якая інфармавала б, што загінулі яны толькі таму, што былі беларусамі. У камунізму і сённяшняй дэмакратыі аднолькавы падыход да гэтай справы. Забойства мірных жыхароў нейк не ўпісваецца ў тую гістарычную легенду пра пасляваеннае падполле, якую распаўсюджваюць настаўнікі ў школах, а публіцысты ў прэсе. Можна сабе толькі ўявіць, што адчуваюць дзеці ахвяр „Бурага" ці „Лупашкі", калі чытаюць або слухаюць, якімі змагарамі за свабоду і дэмакратыю былі віноўнікі смерці іх бацькоў.

Слухаючы апавяданні пажылых людзей пра мінуўшчыну саракавых гадоў складаецца ўражанне, што польска-беларускі канфлікт на Беласточчыне быў тады чымсьці асаблівым. Калі аднак бліжэй прыглядзецца пасляваеннай гісторыі Польшчы, тады ўсё выглядае больш складана. Нашмат горшая чым беларусаў была, напрыклад, сітуацыя немцаў, украінцаў, а нават такіх этнічных груп як сілезцы (шлянзакі), мазуры ці кашубы. Гэтых апошніх цяжка было лакальным уладам вылучыць з нямецкай нацыянальнай групы і таму цярпелі яны за грахі дзяржавы, якой грамадзянамі былі раней. Немцаў, пакуль вывезлі на другі бок Одры, доўга трымалі ў лагерах, дзе ад холаду і хваробаў памерла пару соцень тысяч жанчын, дзяцей, старэчаў. Украінцаў улады пазбавілі сваёй зямлі і вывезлі на зусім чужыя для іх тэрыторыі — Шчэцінскага, Вроцлаўскага ці Ольштынскага ваяводстваў. На фоне пасляваенных лёсаў іншых народаў, што пражывалі ў Польшчы, сітуацыя беларусаў не была самай найгоршай.

Шмат у чым умовы жыцця беларусаў у пасляваеннай Польшчы нагадвалі тыя, у якіх апынуліся славакі на тэрыторыі Спіша і Аравы. Падчас вайны гэтыя землі былі ў складзе славацкай дзяржавы, якая заставалася саюзнікам Нямеччыны. Сярод мясцовых горцаў мала было такіх, якія адчувалі сябе палякамі. Таму пасля вайны, калі Спіш і Араву далучылі да Польшчы, канфлікт паміж мясцовымі жыхарамі і прысланымі з Кракава ўладамі быў непазбежны. На другім баку чэхаславацкай мяжы, на г.зв. Заользі, жыло пару разоў больш палякаў чым славакаў у Польшчы. Чэхаславацкі ўрад вельмі цікавіўся лёсам славакаў, якія пражывалі на тэрыторыі Спіша і Аравы, аказваў ім матэрыяльную і маральную падтрымку, пратэставаў супраць тэрору нацыяналістычнага падполля, якое прымусіла пару тысяч славакаў уцякаць на другі бок мяжы, дамагаўся школ са славацкай мовай навучання, славацкай мовы ў касцёлах.

Цэнтральныя ўлады Польшчы былі зацікаўлены добрасуседскімі адносінамі з Чэхаславакіяй, а асабліва тым, каб палякі на Заользі атрымалі адпаведныя ўмовы для развіцця сваёй нацыянальнай культуры. Урад не скрываў свайго пункту гледжання перад лакальнымі ўладамі і дамагаўся ад іх, каб у адносінах да славакаў вялі такую палітыку, якая не выклікала б дыпламатычных пратэстаў з боку чэхаславацкага ўрада. У 1947 г. ваяводскія ўлады ў Кракаве памянялі камендантаў міліцыі, пагранічных войск, школьнага інспектара і старасту Наватаргскага павета, якія варожа ставіліся да славакаў. Жыхарам Спіша і Аравы дазволілі выбраць школу. Амаль усе выбралі школы са славацкай мовай навучання, але тады ўзнікла пытанне настаўнікаў, якіх не было, таму што зараз пасля вайны паўцякалі яны ў Славакію. Усё гэта адбывалася ў той час, калі, напрыклад, на Беласточчыне ліквідаваліся беларускія школы, а адміністрацыя гэтыя дзеянні аргументавала тым, што Польшча стала дзяржавай аднае нацыі. Славацкай мовай можна было карыстацца таксама ў кантактах з новымі мясцовымі ўраднікамі, якім раней былі арганізаваны падрыхтоўчыя курсы да працы ў гэтым асяроддзі.

Аднае праблемы не маглі аднак вырашыць дзяржаўныя ўлады. Горцы былі глыбока веруючымі людзьмі. Ксяндзы-палякі не допускалі нават думкі пра тое, каб у касцёлах маліцца ці хаця б спяваць калядкі на славацкай мове. Калі вернікі збіраліся спяваць рэлігійную песню на славацкай мове, арганіст пачынаў іграць іншую мелодыю. Пад касцёламі пасля багаслужбы мардабоі паміж славакамі і палякамі, якім з дапамогай заўсёды спяшалі міліцыянеры, здараліся вельмі часта. Кракаўскі ваявода прасіў кардынала Адама Сапегу паўплываць на ксяндзоў, каб дазволілі яны славакам маліцца на іх роднай мове. Але ксяндзы не прызнавалі існавання ніякіх славакаў. Пераконвалі вернікаў, што яны — палякі, якія пад уплывам нацыяналістычнай славацкай прапаганды памянялі нацыянальную арыентацыю. Святары мелі таксама заўсёды ціхую падтрымку з боку мясцовых гмінных і павятовых уладаў.

Нягледзячы на палітыку ўрада Народнай Польшчы, умовы нацыянальнага жыцця славакаў не надта чым адрозніваліся ад тых, якія мелі беларусы на Беласточчыне. Праз іх вёскі таксама праходзілі мясцовыя „Бурыя", толькі што зваліся яны „Огнямі" ці „Югасамі". Колькасць ахвяр — паводле чэхаславацкіх дакументаў — была прыблізна такая ж самая, хаця славакаў на Спішы і Араве жыло ў дзесяць разоў менш чым беларусаў на Беласточчыне і не падтрымоўвалі яны камуністычных улад як нашы сяляне. Славацкія школы хутка пераўтвараліся ў польскія, таму што нават тыя настаўнікі, якія закончылі курсы славацкай мовы, на практыцы вучылі на польскай. Славакі былі католікамі, але ксяндзы паводзілі сябе так, бышцам бы Бог не разумеў славацкай мовы.

На польска-беларускім памежжы на Беласточчыне пасля вайны не было затым больш варожасці і крывавых інцыдэнтаў чым на польска-славацкім пагранічччы, хаця там побач сябе жылі людзі такога самага веравызнання. Але гэта толькі сумная канстатацыя.

**Яўген Міраловіч**

# Клопат — беларуская кніга

**З Георгіем МАРЧУКОМ, дырэктарам мінскага выдавецтва „Мастацкая літаратура" гутарыць Міра ЛУКША.**



***— Вы ўжо трэці год на гэтай пасадзе. Як адчувае сябе пісьменнік у ролі адміністратара?***

— Як вы ведаеце, пісьменніку цяжка пераходзіць на адміністрацыйную пасаду. Але ў мяне быў вопыт, я працаваў на кінастудыі рэжысёрам, адміністратарам, быў пэўны час саветнікам міністра культуры, працаваў і ў фірме, якая спрабавала наладзіць гандаль кніжкамі.

***— Як гандляваць кнігамі, каб на іх зарабіць? Каб хоць грошы вярнуліся...***

— Я трапіў у выдавецтва ў пераходны перыяд. Яно стаіць як на мяжы — яно не адышло ад сацыялістычнай сістэмы размеркавання сродкаў, якія накіроўвае дзяржава праз Дзяржкамдрук, і на пераходзе да самаакупаемасці нашай літаратуры. Да таго, каб зарабляць на літаратуры грошы самастойна.

***— Прабачце, але, здаецца, гэта гучыць, мякка кажучы, нерэальна. Бо якая літаратура рэнтабельная? Нават калі не пра беларускую гаварыць. Здаецца мне, і вы таксама гэта бачыце, што людзі ўвогуле адвыклі чытаць.***

— Будзе гэта цяжка, на першых парах можа і немажліва. Попыт на беларускую літаратуру знізіўся. Цэлы шэраг аб'ектыўных прычынаў; жыццё нялёгкае, грошай мала. Кніга не стала першай неабходнасцю, а ж раней усе да яе цягнуліся. Агульны заняпад цікавасці да беларускае мовы. Скарачэнне бібліятэк, асабліва на вёсцы (а чытач на вёсцы быў наш асноўны). Таму тут комплексная праблема. З другога боку шмат што выдаецца беларускіх пісьменнікаў, перавыдаецца. Не ўсё тое, што „працавала" ў савецкі час ды ідэалагічна было на слушных асновах, зараз можа карыстацца попытам. Надышоў час прагледзець і школьныя праграмы. Ці варта цяпер вывучаць „Трэцяе пакаленне" ці „На ростанях"? А, мажліва, трэба ўставіць паэзію Разанава, Салаўя, Чыквіна, прозу Сяднёва. Абавязкова „Пожню" Васіля Петручука — грунтоўную, праўдзівую прозу. Каб была нейкая мабільнасць. А так вывучаем, па-старынцы, дзеці вывучаюць, а можа быць адваротны эфект!

***— Не мы ўкладаем праграмы ў беларускіх школах. Што тут пра гэта развжаць, калі афіцыйным указам адказных за навучанне выкінуты з прагмам і забаронены, часам зусім маленькімі пільнымі начальнікамі па абласцях, пісьменнікі, якіх прозвішча яны нават запісаць у тых указах не ўмеюць... Усё ж, кнігі выдаюцца...***

— „Мастацкая літаратура" — апошні фарпост беларускіх пісьменнікаў. Так, некаторыя кнігі яшчэ выдаюцца. Ды цяпер нават Караткевіч не „ідзе" так як раней... Вось мой „Хаос", кніга года, таксама цяжкавата прадаецца. І ў свеце нас мала ведаюць, мала перакладаюць. Раней кнігі беларускіх аўтараў выходзілі і ў Францыі, і ў Кітаі, і ў Манголіі і ў іншых краінах, а перш за ўсё ў перакладах на мовы народаў СССР. Мы тут стараемся як можам. Ёсць яшчэ падтрымка з боку Міністэрства культуры, — заказы для бібліятэк. Узмацнілі мы аддзел маркетынга, тэлефануем і ў раёны падтрымаць, як іх называю, „рэгіяналаў" (на жаль, у заняпадзе і рэклама на беларускую літаратуру, не працуе як належыцца і Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў)... Працягваюцца выданні твораў класікаў (Крапіва, Купала, Міцкевіч...). Выдаем Яўгенію Янішчыц. Вярнулі з забыцця цудоўную паэтэсу Еўдакію Лось (20 гадоў яе ніхто не выдаваў), адкрылі імёны вельмі маладых паэтаў як Валерыя Кустава... Маем маладога драматурга — Фёдара Палачаніна з Докшыцаў (а дзесяць гадоў не было ў нас новых драматургаў). У нас адкрыта новая, „Залатая серыя". Караткевіч. Раіса Баравікова. Малады Леанід Дранько-Майсюк... Незалежна ад таго, якіх поглядаў пісьменнік. У нас адзін грунтоўны падыход — мастацкая вартасць твора. Ганарыцца маем чым, хоць сродкі нашы моцна абмежаваны, але ўжо ёсць дапамога з боку ўлад для ўсіх мастацкіх саюзаў.

***— А як стаіць справа з нашымі беластоцкімі пісьменнікамі? Некаторыя з іх — таксама члены беларускіх творчых суполак.***

— Сачу за беластоцкімі пісьменнікамі пастаянна, займаюся папулярызацыяй. Праз гэтую дарагавізну і іншыя праблемы ў нас менш сустрэч. Маю пастаянны кантакт з Янам Чыквіным, Сакрата Яновіча мы выдавалі. Шаховіч таксама цікавы. Са Шведам мы ў пастаянных прыяцельскіх адносінах... Дарэчы, кожны беластоцкі творца можа звярнуцца ў наша Міністэрства культуры, у Фонд пры прэзідэнце па падтрымцы літаратуры і мастацтва, калі ёсць у яго цікавая праграма, і атрымаць на гэта грант.

***— Пісьменнікам цяжка размаўляецца з уладай, якая, вядома, дарма таксама не хоча галубіць.***

— Улада павінна шанаваць сваіх пісьменнікаў, яны яе таксама. Мне здаецца, што былі перакосы і з аднаго, і з другога боку. Трэба шукаць паразумення.

***— А як з Вашай уласнай творчасцю? Хапае часу і ахвоты пісаць?***

— Я так улез з галавою і рукамі ў гэту работу, што сапраўды... А можа так і ёсць, што Бог даў мне ўсё лепшае ўжо напісаць... І я тут пасаджаны, каб яшчэ некаму дапамагчы. Некаторыя доўга стукаліся ў гэтыя дзверы па пяць, па шэсць гадоў. Была каставасць, групаўшчына, як звычайна паўсюдна. Але тады было больш сродкаў, людзі не саромеліся выдаваць у год па 3-4 кніжкі, па зборы твораў. Цяпер ужо так не раскашэлішся, і трэба вельмі ашчадна ставіцца да кожнай капейчыны ў выдавецтве...

Вось я апошнім часам напісаў кнігу навел „Хаос", за якую атрымаў прэмію за духовае адраджэнне, мела яна прыз найлепшай кнігі года. Не павінен я хіба за яе сароміцца. Да таго я працаваў у драматургіі, выдаў некалькі раманаў, сцэнарыяў фільмаў („Кветкі праведнікаў"). Я творчым лёсам задаволены. Можа мне пашанцавала, што я пачынаў з камедыі, заўсёды быў нацэлены на сатыру. У мяне было менш ухвалення рэчаіснасці ці заігрывання з уладамі, я быў збоку, у цяні. 25 гадоў сумленна, плённа працаваў. 15 гадоў не займаў ніякіх пасад. Прыйшоў да таго, што мне не сорамна ні перад чытачамі, ні перад калегамі. Небагата цяпер каму з пісьменнікаў чытачы пішуць, тэлефануюць... Можа, Богу спадобіцца, што яшчэ нешта напішу ў кароткім жанры. А ёсць у мяне яшчэ незавершаны раман пра Кірылу Тураўскага, ёсць накіды п'ес-камедый. Але мой цяперашні найбольшы клопат — беларуская кніга. Знікне яна, прападзе пісьменнік. Друкаванае застаецца. Якія б віхуры на зямлі ні адбываліся і грамадствам хаос які ні хістаў, усё роўна чалавек будзе цягнуцца да паэзіі, да мастацтва. Тэхналогія змяняецца, але дух і выявы гэтага духу заўсёды застаюцца.

***— Дзякую за размову, жадаючы поспехаў і задавальнення.***

# Школьны этап Алімпіяды

Школьныя элімінацыі V Алімпіяды беларускай мовы ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбыліся 18 снежня 1998 года, але рэзультаты абвешчаны былі крыху пазней.

У першым этапе алімпіяды прыняло ўдзел 26 асоб. Вучням трэба было напісаць пісьмовую працу на тэму „Мае разважанні аб прачытаным творы" і адказваць на вусныя пытанні паводле раней падрыхтаваных білетаў.

Веды сваіх вучняў правярала школьная камісія, якую састаўлялі настаўнікі беларускай мовы Вольга Сянкевіч і Ян Карчэўскі ды прадстаўнік Галоўнага камітэта Алімпіяды настаўніца Валянціна Бабулевіч з Бельска-Падляшскага.

Вусныя адказы тычыліся беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Кожны ўдзельнік мог атрымаць 40 балаў за вусны адказ і 60 балаў за пісьмовую працу.

— Можна сказаць, што ўзровень пісьмовых прац добры, усе пісалі згодна з патрабаваннямі, а разважанні многіх вучняў былі цікавымі, — кажа настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі. — Вусныя адказы таксама былі добрымі, а памылкі, якія паяўляліся, мелі найчасцей моўны характар. Калі параўнаць з мінулымі гадамі, дык сёлета менш ліцэістаў прымала ўдзел у школьным этапе і гэта былі тыя вучні, якія ў беларускай праблематыцы найлепш зарыентаваныя.

Найбольш вучняў разглядала ў пісьмовых працах сучасныя творы або тыя, якія тычыліся II сусветнай вайны. Ліцэісты выказваліся ў пісьмовых працах на тэму песень Віктара Шалкевіча, твораў Адама Глёбуса, Васіля Быкава, Аляксея Дударава, Янкі Брыля, але былі і разважанні, звязаныя з гістарычнымі творамі Уладзіміра Караткевіча і Леаніда Дайнекі.

— Тэма пісьмовай працы была даволі агульная, так што можна было выказвацца пра свой любімы твор, а што тычыцца вусных адказаў, дык таксама пытанні не былі цяжкімі. Я, напрыклад, расказвала пра герояў старажытнай беларускай літаратуры, — кажа Моніка Давідзюк.

Да раённых элімінацыяў перайшло 18 асоб, сярод якіх найлепшай аказалася Анна Найбук, якая набрала максімальную колькасць — 100 балаў. На другім месцы апынуўся Міхал Корх, які сабраў 99 балаў. На трэцім месцы была Анна Граматовіч, якая сабрала 97 балаў. Вусныя адказы ўсіх трох згаданых вучняў ацэнены былі максімальна. У найвышэй ацэненай пісьмовай працы Анна Найбук выказвала свае ўражанні на тэму гістарычнага рамана Леаніда Дайнекі „Жалезныя жалуды".

**Аляксей Мароз**

# Асветнікам пад развагу

Ужо больш года таму завязаўся Грамадскі камітэт пабудовы пачатковай школы ў Ласінцы, што ў гміне Нарва. Жыхары гэтай вёскі хочуць пабудаваць школу, хаця цераз некалькі гадоў будынак можа стаць пустым, як і іншыя школьныя будынкі, г. зв. тысячагодкі, якія нішчэюць. Каб не быць галаслоўным, падаю прыклады толькі з Нарваўскай гміны: стаяць ды нішчэюць школы ў Іванках, Адрынках, Тыневічах і Янаве а хутка будзе пуставаць і школа ў Трасцянцы.

Цяпер пры рэформе асветы, калі ўводзяцца шасцікласныя падставовыя школы і гімназіі, хопіць школы ў Нарве, а прыгожая школа ў Крыўцы, побач Ласінкі, таксама хутка будзе пуставаць.

Гаварыў я на гэтую тэму з кампетэнтнымі асобамі, якія ўпэўнены ў тым, што намнога карысней было б купіць аўтобус і вучняў з Ласінкі вазіць у школу ў Крыўцы ці ў Нарве, чым будаваць новую школу. Мае суразмоўцы сказалі яшчэ, што ініцыятыву жыхароў Ласінкі падтрымоўвае пасол Сяргей Плева, ураджэнец гэтай вёскі. Але мне здаецца, што трэба добра разважыць, ці пабудова школы ў Ласінцы сапраўды неабходная, каб часам не выкінуць грошай у балота.

**Мікалай Лук'янюк**

# Апошнія заслужаныя

Беларускія літаратары Надзея Артымовіч, Уладзімір Гайдук і Міхась Шаховіч узнагароджаны залатой адзнакай „Заслужаны Беласточчыне".

Адзнаку „Заслужаны Беласточчыне" на працягу дзесяцігоддзяў прысвойваў беластоцкі ваявода за асаблівыя заслугі для Беластоцкай зямлі. „Ніва" калісьці таксама выходзіла з выявай гэтай адзнакі побач загалоўка. Разам з пераўтварэннем Беластоцкага ваяводства, канчае сваё жыццё і адзнака „Заслужаны Беласточчыне".

У нечым сімвалічна, што сярод апошніх узнагароджаных апынуліся тры беларускія паэты. Прычым вельмі асабістыя, прачулыя лірыкі, далёкія ад сусветнай мітусні. Уладзімір Гайдук і Міхась Шаховіч нават на гэтую цырымонію не прыбылі. Прысутнічала толькі Надзея Артымовіч, якая ў апошні час у розных месцах збірае заслужаныя адзнакі прызнання. Нядаўна ў Любліне выйшаў зборнік яе паэзіі „Лагодны час", як доказ, што творчасць паэткі з'яўляецца вартасным экспартным таварам Беласточчыны. **(ак)**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Вясёлы куточак

— Бабулька! — звяртаецца ўнучак, — дзякую за падарунак.

— Няма за што, Андрэйка.

— І я так думаў, але татка загадаў падзякаваць.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**



*Магда і Адась Аўксенціюкі з Дубіч-Царкоўных.*

## Мой родны дом

Дом родны — гэта не толькі будынак, месца, дзе можна пасяліцца. Гэта перш за ўсё прыемная атмасфера, якую ствараюць яго жыхары. Дом іграе вялікую ролю ў жыцці кожнага чалавека. Гэта тут яшчэ дзіцём пазнаем добрае і злое. Родны дом дае бяспеку, прыносім у яго свае радасці, клопаты і журботы. Заўсёды можна лічыць тут на зразумелыя і ласкавыя словы. Вязі, якія спалучаюць сям'ю, вельмі моцныя. Гэта важнае для псіхічнага развіцця маладога чалавека, дае шчасце і бяспеку. Асобы, якія выхоўваюцца ў атмасферы цяпла — адданыя, упэўненыя ў сябе і не баяцца розных няўдач. Часта бывае так, што дом з'яўляецца месцам, дзе мала ёсць любові, пашаны і бяспекі. Жывучы ў такіх умовах чалавек адчувае сябе нешчаслівым і адзінокім. Не верыць ён сябрам і часта сыходзіць на злую дарогу.

Атмасфера роднага дома мае вялікі ўплыў на развіццё чалавека. Тое, што мы выносім з дому, дае плён у нашым дарослым жыцці. Родны дом — гэта месца, у якое заўсёды вяртаемся таму, што яно найдаражэйшае. Я веру ў тое, што кожны павінен мець родны дом і трэба клапаціцца, каб было ў ім цёпла і ўтульна.

**Аліна Сіроцкая, VII кл. ПШ у Чыжах**

## Успаміны з экскурсіі

На ўроку беларускай мовы вучні VI, VII і VIII класаў Пачатковай школы ў Орлі наведалі беларускі музей у Гайнаўцы.

Найперш мы сустрэліся са спадаром Міхалам Голубам, які быў нашым экскурсаводам. Ён расказаў нам пра беларускі музей. Потым запрасіў нас у тры залы, дзе мы аглядалі даўнія прадметы штодзённага ўжытку, затым перайшлі ў будынак, які патрабуе фінансаў на даканчэнне будовы. Калі ўсе вучні агледзелі экспанаты, вярнуліся ў школу.

Экскурсія была цікавая і вельмі нам падабалася. Мы пераканаліся, што нашы продкі былі вельмі працавітыя і разумныя, а іх умелыя рукі маглі зрабіць такія цікавыя і цудоўныя рэчы. Мы чакаем наступнай экскурсіі.

**Бэата і Крыся з VIII кл. ПШ у Орлі**




*Пан Кублiцкі, дзеўка Дрыпа і пан Заблоцкі.* Малюнак 6-гадовай Натальскі з Беластока

## Два маразы

*(казка)*

Гулялі на полі два маразы, два родныя браты: мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос.

Гуляюць-пагульваюць маразы, адзін аднаго пахвальваючы. А ноч ясная-ясная. Прасторна маразам на волі. А ціха, так ціха, нібы жывой душы не засталося на свеце. Перабеглі маразы з поля на лес. Бегаюць, палускваюць, з дрэва на дрэва пераскокваюць, зайчыкаў палохаюць. З лесу ў вёску заскочылі і давай на даху страляць.

— Эге, — кажа мароз Сіні-нос, — усе пахаваліся, баяцца на двор вылезці.

— Няхай толькі вылезе хто: задамо яму страху, — адказвае мароз Чырвоны-нос.

Пачало развідняцца. Паваліў з комінаў дым густы. Заскрыпелі калодзежы. Павыходзілі мужчыны з хат. Хто малаціць пайшоў, хто ў лес па дровы збіраецца.

— Стой жа, брат, — сказаў мароз Чырвоны-нос. — Пабяжым жа мы на дарогу ў поле.

І пабеглі яны зноў у поле; стаяць, прытуліўшыся, падарожных чакаюць.

Заскрыпелі сані на дарозе. Зазваніў дзесь званочак пад дугою.

У санях селянін сядзіць, коніка паганяе. А ззаду за ім зухаўскі вазок плыве. Званочак пазвоньвае.

— Ну, чакайце ж вы, — кажа мароз Сіні-нос. — Ты бяжы за мужыком, а я за панам паганюся.

І пабеглі яны падарожных марозіць. Доўга бег мароз Сіні-нос, пакуль пана дагнаў. Нарэшце дагнаў, пад футра залез, цяпло выганяе адтуль. Паціскаецца пан, ногі зябнуць; холад па целе пайшоў, панскі нос пасінеў.

А мароз Сіні-нос толькі пасмейваецца. Ледзь да смерці пана не замарозіў. А мароз Чырвоны-нос дагнаў селяніна і давай яго марозіць.

— Эге, мароз не жартуе, — кажа селянін. Злез ён з саней, бяжыць, нагамі тупае, рукамі аб плечы б'е. Прабег так з паўвярсты, аж горача стала яму. Сеў сабе на сані, едзе — і гора мала.

— Ну пачакай ты, брат: прайму я цябе, як ты дровы сячы будзеш.

Заехаў чалавек у лес. А мароз Чырвоны-нос выперадзіў яго, у лесе чакае. Выпраг коніка селянін, сякеру ўзяў ды як пачаў секчы — горача стала яму. Скінуў кажух. А мароз і ўзрадаваўся: залез у кажух і давай там белыя кросны ткаць.

Зрабіўся кажух белы, як снег. Насек дроў чалавек, да кажуха ідзе, а ён увесь абмёрз.

Эге, браток, дык ты тут!

Узяў пугаўё ды як стаў калаціць — ледзь жывы выскачыў мароз Чырвоны-нос ды драла ў лес.

Узлаваўся Мароз Чырвоны-нос на селяніна, але ніякай рады даць яму не можа.

**Якуб Колас**

## Пячэнне як Балтыйскае мора

У апошні чацвер я рашыла выпрабаваць свой пякарскі талент. У гэты дзень я не маю ў школе ўрокаў і такім чынам аказія была непаўторная. Белыя камякі снегу, якія ляцелі за акном, вызвалялі ўва мне душу пекарамастака.

Толькі кот не падзяляў майго энтузіязму. Смачна спаў паблізу цёплай электрычнай печкі. Напэўна пакінуў бы яго спакой, калі б хтось успомніў яму пра рыбу або мяса.

Я знайшла каляровую, тоўстую кніжку з цікавымі рэцэптамі. Доўга не думаючы, выбрала адзін з іх. Я адмерыла патрэбную колькасць пшанічнай і бульбяной мукі. Першыя праблемы, якія з'явіліся, тычыліся яек. Два з іх неразважліва выпалі з маіх рук і разбіліся на падлозе. У гэты момант прачнуўся мой кот, напэўна, злавіў у вуха стук дзвярэй халадзільніка. Заўсёды галодны Латак пакрочыў па самой сярэдзіне яечнай плямы. На працягу двух мінут жоўценькія сляды лапак былі не толькі ў кухні, але ў калідоры; праўду кажучы, былі яны ўсюды. Цэлы дом выглядаў так, як быццам хтось у ім насадзіў жоўтых кветачак лотаці. Я стала пільна ліквідаваць яечныя плямкі, а галоўны віноўнік ізноў ціхенька заснуў.

Пячэнне было гатовае каля трэцяй. Я запрасіла сям'ю на сёе-тое салодкае. Усе хвалілі выгляд майго торта. Добры настрой пакінуў мяне, калі мы пачалі прабаваць плён маёй працы. Торт быў такі ж салёны, як Балтыйскае мора! Я памылілася: замест цукру ўсыпала цэлую шклянку солі! Нават Латак не хацеў гэтага есці.

Я не здала кулінарнага экзамена. Ката гэта не тычылася.

**Аня Аўсянюк**

# „Слухаю сваіх сяброў...”

**Інтэрв’ю з Юркам ЛЯШЧЫНСКІМ — журналістам Польскага радыё Беласток, рэдактарам радыёперадачы „Пад знакам Пагоні”.**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Юрка Буйнюк:** ***— Можа пачну ад найважнейшага: спадар рэдактар, адкуль Вы родам?***

**Юрка Ляшчынскі:** — Я з Орлі... славутай таму, што наша гміна мае слаўнага войта, з Маліннік...

***— Дзе Вы закончылі пачатковую і сярэднюю школы? Ці запамяталася Вам якаясьці прыгода з тых гадоў?***

— Пачатковую школу закончыў я ў Орлі. Потым я закончыў бельскі белліцэй. Прыгода? Кожны дзень быў прыгодай. Найцікавей было ў ліцэі. Помню год, у якім наш клас канчаў ліцэй. І ў гэтым годзе не было... стаднёўкі. Так, не было стаднёўкі! А чаму не было? Час, у якім я канчаў школу, гэта час перамен, забастовак у краіне і на Беласточчыне. Ваеннае становішча.

***— Ці былі іншыя прыгоды?***

— А былі, былі... Помню, наша пакаленне жыло ў такіх часах, што ўсё было на г.зв. „карткі”. Я меў 15 гадоў і ўжо мог купляць папяросы, піва, бо былі ў мяне карткі.

***— Адкуль у Вас такое зацікаўленне беларускай мовай? Чаму і ад якога часу вы працуеце журналістам?***

— Трэба было нечым заняцца. Я браў удзел у геаграфічнай алімпіядзе і выйграў яе, а дакладней, атрымаў індэкс у любую вышэйшую навучальную ўстанову і выбраў гумністычны напрамак. На радыё працую восем гадоў... А адкуль такія зацікаўленні? Калі я быў студэнтам, то рэдагаваў „Сустрэчы” — студэнцкі часопіс і старонку „Прысутнасць” у „Ніве” (таксама студэнцкую).

***— Вашы любімыя кніжкі, музыка?***

— Кніжкі? Вядома, ёсць! Мы чытаем па розных патрэбах — для рэлаксу або сур’ёзна. Для рэлаксу то я чытаю, між іншым, жахалкі Мастэртона. А музыка? У апошні час слухаю „Народны альбом”. Кожны дзень паасобныя песні слухаю.

***— А што найбольш Вам у гэтых творах падабаецца?***

— Найбольш мне запамяталася і падабаецца жыдоўская вясельная песня Памідорава. Варта ведаць, што спяваюць. Цяперашняя моладзь слухае амерыканскую музыку і не ведае, што яны спяваюць.

***— Ваша хобі?***

— Хобі? Дзіўная рэч! Я збіраў і збіраю геаграфічныя карты. Гэтым хобі, як гэта можна назваць, я зацікаўлены ад 4 класа пачатковай школы. Спачатку я рысаваў дарогі, накрэсліваў дамы... Потым я купіў карту ваяводства, а тое, што мне сказалі ў школе, што існуюць ваяводствы, Польшча і іншыя краіны свету пачало мяне цікавіць і я пачаў збіраць карты іншых краін свету.

***— Спадар рэдактар, мы ўжо гаварылі аб Вашым хобі, школах, якія Вы закончылі, аб працы на радыё... У мяне да Вас апошняе пытанне: як Вы ацэньваеце свой голас і працу сваіх сяброў?***

— Сябе то я мушу слухаць і ведаць, дзе я зрабіў памылку, але і слухаю сваіх сяброў: і Ярка Іванюка і Валодзю Праховіча, а таксама Марка Заброцкага. Раней, помню, у нашай рэдакцыі працаваў спадар Станіслаў Пазнаньскі, які калісьці з арханёла зрабіў Анёла! Бачыце, часамі памылка ў адным слове можа давесці да непаразумення! А мой голас? Не ацэньваю яго добра! Найлепшы голас маюць амерыканцы.

***— Дзякую Вам за размову і жадаю Вам поспехаў у працы на радыё.***

**Гутарыў Юрка БУЙНЮК**



*Дэкламаткі з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Віленская беларуская гімназія

Беларуская гімназія ў Вільні была школай, якой выпускнікі арганізавалі беларускае нацыянальнае жыццё ў ІІ Рэчы Паспалітай, падчас нямецкай акупацыі, а пасля на эміграцыі. Была гэта школа, дзе настаўнікі не толькі давалі веды па матэматыцы, хіміі ці гісторыі, але таксама вучылі шанаваць сваю нацыянальную годнасць. Тыя маладыя людзі, якія закончылі віленскую гімназію, ніколі не сумняваліся ў тым, што яны беларусы, а таксама адчувалі патрэбу рабіць нешта для народа і Бацькаўшчыны.

Школа ўзнікла ў 1919 годзе па ініцыятыве Івана Луцкевіча. Яе дырэктарамі былі, між іншым, Міхал Кахановіч, Радаслаў Астроўскі, Адам Станкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Нэканда-Трэпка, а выкладчыкамі: Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін, Хведар Ільяшэвіч, Барыс Кіт, Антон Луцкевіч, Рыгор Шырма. Былі гэта людзі розных палітычных арыентацый, якіх спалучала толькі ідэя працы над выхаваннем маладога пакалення беларускай нацыянальнай эліты. Усе прадметы да 1925 года выкладаліся там на беларускай мове. Польскія ўлады прымушалі вучыць на дзяржаўнай мове гісторыю і геаграфію, але настаўнікі найчасцей ігнаравалі такія загады. Беларуская гімназія фінансавалася бацькоўскім камітэтам, значыць, за грошы бацькоў вучняў, якія там вучыліся. Часам дапамагала ёй Таварыства беларускай школы, а ад 1928 г. кароткі час падтрымоўвалася віленскай кураторыяй.

Вучні Віленскай гімназіі праяўлялі вялікую актыўнасць. У школе дзейнічалі літаратурны, музычны, тэатральны, мастацкі гурткі і аркестр пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Вучні рэдагавалі таксама свае газеты ў рукапіснай форме. Былі гэта „Васілёк”, „Зорка”, „Наперад”, „Золак”, „Вучнёўскі звон” і „Рукі прэч ад гімназіі”. Гэтая апошняя газетка паказалася ў 1929 годзе. У 1932 годзе школа стала філіялам польскай гімназіі імя Юльюша Славацкага, пасля чаго шмат вучняў і настаўнікаў пакінула навуку і працу.

# Польска-беларуская крыжаванка № 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Baran | | Bank | | Rola | | Język | Gruz |
| Karnawał | | Orzeł<br>Echo | | | | | Łapa |
| | | | | | | | |
| Reklama | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| Groza<br>Naciągnięcie | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 51:** Крамола, дрывасек, рысунак, кус, кава, кола, хара, яд, друк, крысо, рыс, навука, манах, Косава, лекар, мак.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Ірэна Дрэноўская** з Новага Корніна, **Барбара Жэрунь** з Бельска-Падляшскага, **Дарэк Екацярынчык** з Кнарыд, **Магда Аўксецеюк** з Дубіч-Царкоўных, **Марцін Кандрацюк** з Нараўкі, **Пётр Каліноўскі** з Гарадка, **Аня Лапінская** з Нарвы і **Цаліна Глагоўская** з Гданьска. Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

# Сустрэча

22 снежня 1998 года настаўніца беларускай мовы Пачатковай школы ў Нарве Ніна Абрамюк з вучнямі чацвёртага класа, якія наведваюць урокі роднай мовы наладзіла сустрэчу са мною, як паэтам. Дзетак найбольш цікавіла тое, калі я пачаў пісаць вершы ды калі ў мяне найбольшае натхненне да пісання.

Я расказваў пра сваё дзяцінства. Мне прыйшлося ўпершыню пайсці ў школу на 11 годзе жыцця, а гэта па прычыне ІІ сусветнай вайны. У нас падчас нямецкай акупацыі не было школы. Сказаў я таксама, што найбольшае натхненне да складання вершаў з’яўляецца ў мяне раніцай, калі ўстаю з пасцелі. Потым я прачытаў некалькі сваіх вершаў.

Вучні IV класа абяцалі мне, што будуць шчыра вывучаць родную мову, часта будуць пісаць у „Зорку” ды самі паспрабуюць пісаць вершы.

Я думаю, што спатканні з паэтамі і пісьменнікамі, так прафесіяналамі, як і пачаткоўцамі, вельмі патрэбныя ў тых школах, дзе навучаецца родная мова. Тады вучням будзе лягчэй паспрабаваць выявіць свой талент, а можа нават стаць паэтамі.

**Мікалай ЛУК’ЯНЮК**



Талон „Зоркі” № 3
17.01.1999

# „Цябе, мая думка, Радзіма прытуліць...”



*Тодар Лебяда і Бася Цыпіна, 1959 г.*

***(Згадка пра жыццёвы і трагічны лёс беларускага літаратара Тодара Лебяды)***

Некалькі гадоў шукаю звесткі пра таленавітага беларускага паэта, драматурга, празаіка і публіцыста Тодара Лебяду (Пятра Фёдаравіча Шыракава). Шмат ужо знойдзена, сёе-тое апублікавана.

Хачу сказаць, што Тодар Лебяда ўпершыню ў беларускай літаратуры смела і адкрыта ў сваёй творчасці адлюстраваў жахі сталінскіх рэпрэсій, паказаў наўмыснае знішчэнне беларускай нацыі. Імя літаратара на працягу чатырох дзесяткаў гадоў было забыта і выкрэслена з беларускай гісторыі. Але час вяртае свае таленты з небыцця. Вяртаецца пацяху і творчасць Тодара Лебяды — Пятра Шыракова.

Ён любіў Беларусь, любіў свой родны горад, якому прысвяціў шмат паэтычных радкоў. А гэтыя ён напісаў у 1960 годзе і надрукаваў у слонімскай раённай газеце „Вольная праца”:

Ёсць рэчка такая,
Лучосай завецца,
над рэчкаю сад наш
і дом;
там спелыя вішні
ружовым суквеццем
схіляюцца ўніз
над вадой...

Размова ідзе пра Віцебск, дзе 6 студзеня 1914 года нарадзіўся Тодар Лебяда. Рана застаўся без бацькі, таму выхаваннем сына займалася маці Настасся Карпаўна Паедава.

Пасля Віцебскай сямігодкі Пятрок паступае ў рамеснае вучылішча чыгуначнікаў. Яшчэ ў школе пачынае пісаць вершы, а ўжо ў вучылішчы цвёрда вырашае займацца літаратурай.

У 1933 годзе паступае ў Мінскі педагагічны інстытут. Яго нарысы і вершы друкуюцца ў газетах „Віцебскі рабочы”, „Савецкая Беларусь” і „Піянер Беларусі”. Тут у інстытуце ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі пачынаючымі тады аўтарамі. Тут ён знаёміцца і з яўрэйкай Басяй Цыпінай, якая была на сем гадоў старэйшая за яго. Цяжкія матэрыяльныя ўмовы вымушаюць Пятра Шыракава быць бліжэй да гэтай багатай мінчанкі-аднакурсніцы. Але больш за ўсё яна ўмела прыласкаць беларускага рахманага хлопца да сябе. Пра гэта добра напісаў у сваім рамане „Раман Корзюк” (Нью-Йорк—Мюнхен 1985) Масей Сяднёў. Пятро Шыракоў у рамане выступае пад псеўданімам Пятрок Шыракоў, а Бася Цыпіна пад сваім сапраўдным прозвішчам: „...Скончылася лекцыя Піятуховіча, і студэнты высыпалі на перапынак на карыдор... Пятрок Шыракоў з Цыпінай і зь некаторымі іншымі студэнтамі заставаліся ў аўдыторыі, на карыдор ня выходзілі. Цыпіна карміла Шыракова бутэрбродамі, якія яна прыносіла з дому і якімі яна спадзявалася ўтрымаць пры сабе галоднага Шыракова. Шыракоў напачатку адмаўляўся ад пачастунку, але Бася ўмела яго ўгаварыць, і Пятрок згаджаўся, вынімаў з кішэні сьцізорык і гаварыў:

— Ну, калі ты ўжо гэтак просіш, адрэжу ад цябе на капейку!

Потым Пятрок пачаў адразаць і на рубель. Нарэшце, Пятрок сьцізорыка ўжо не вынімаў, а браў Басіны бутэрброды цалкам... Гэтак вось і цяпер, зьеўшы бутэрброд, ён выцягнуў за руку з-за стала Басю і закружыўся зь ёй у вальсе каля прафэсарскай кафэдры. Вальс ён граў сам сабе на губах. Трымаючы Басю шчыльна, але настолькі, каб можна было сваім корпусам адкідацца назад, Пятрок кружыў Басю да шаламлівасьці, і яна, быццам у вялікай жарсьці, клала яму сваю галаву на плячо, заглядаючыся ў ягоныя вочы знарок спакусьліва і міргліва. Потым ініцыятыву забірала Цыпіна, пачынала знарок круціць Петрака налева, ведаючы, што ён умее танцаваць толькі ў адзін бок. Гэта называлася вальсам Цыпінай. Прысутныя смяяліся і білі ім у ладошкі...”.

У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Цыпіна нарадзіла ад Пятра Шыракава дачку Алесю, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шыракава Аляксандра Пятроўна, 1936 года нараджэння... Але ў гэты час бацькі Алесі, на жаль, побач ужо не былі. Яго і яшчэ адзінаццаць студэнтаў Інстытута абвінавацілі ў „буржуазным нацыяналізме”. Таму цягнік іх вёз аж у Навасібірскую вобласць. Пятро Шыракоў быў асуджаны на пяць гадоў, Я. Ермаловіч і М. Сяднёў на шэсць гадоў і г.д. Шыракаву ўдалося ўладкавацца кавалём у гэтай вобласці, а некаторых яго сяброў закінулі на Камчатку.

За сувязь з „ворагам народа” Басю Цыпіну (а гэта быў апошні курс) выключылі з Інстытута. Работу ў Мінску ёй не давалі, сачылі за кожным крокам. Але настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй не хапала, і таму яе літасціва накіравалі ў Смалявіцкую сярэднюю школу выкладаць беларускую мову і літаратуру. З ёю паехала і дачка.

У Смалявічах Басі Цыпінай жылося вельмі цяжка: бясконцыя праверкі то з раённага аддзела адукацыі, то з райкама партыі, то з КДБ. Але яна не здавалася, пісала ва ўсе інстанцыі з просьбай, каб адбыўся над мужам паўторны суд.

У 1940 годзе па хадайніцтву той жа Басі Цыпінай Пятра Шыракава і яго сябороў усё ж зноў прывозяць у Мінск для „перагляду справы”. З Мінска адпраўляюць у Чэрвень, дзе і застаў яго пачатак вайны.

Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму вайскоўцам было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда апынуўся на волі. Гэты момант той самы Масей Сяднёў занатаваў у сваёй паэме „Мая вайна” (зборнік „Патушаныя зоры”, Нью-Йорк—Мюнхен 1975, с. 203-205):

... Я падаў і плакаў...
— Ты што? —
пачуўся мне голас ласкавы
і нехта падаў паліто: —
Накрыйся й ляжы!
Апрытомнеў
І вочы падняў я — на крок
у раніўшніх сонца промнях
стаяў ад мяне Пятрок.
Той самы Пятрок, зь якім мы
вучыліся тры гады.
А потым экзамен у Нарыме
трымалі за курс бяды.
Прасоўваліся па балотах
армейцы ваўчынай ганьнёй.
І лёталі самалёты
чужыя над нашай зямлёй.
Быў горад далёка за намі,
ад сажы і дыму густы.
Ішлі зь Петраком мы жытамі,
ня ведаючы куды.
І ўспомнілі мы, што болей
канвою над намі няма,
што сапраўды на волю
нас выпусьціла турма.
І хопіць мы турму гнаілі,
ды посьля пяцёх гадоў
здавалася нам, наіўным,
мы сталі студэнтамі зноў.

Шумлівыя, сьветлыя залі,
прыемны студэнтакі напеў.
Мы лепш, чым другія пазналі
„кароткі курс ВКП”.
Прайшлі мы і з словам „нацдэмы”
па мёрзлай зямлі і вадзе.
Ня ведалі нашыя, дзе мы
і думалі: можа нідзе.
Ісьці не маглі мы далей,
супольна — рука ў руку:
мяне ў вадным чакалі,
яго — у другім баку.
Заплакалі мы на ростань,
зморанья ад хады,
і разьвіталіся проста,
як нашы калісьці дзяды.
У памяці дзень той ня выцьвіў,
на музыку просіцца слоў...
Мой сябра пайшоў на Віцебск,
а я — на Магілёў...

Так Пятро Шыракоў дабраўся ў Віцебск, дзе жыла яго маці. Тут ён шмат пісаў — вершы, апавяданні і драматычныя творы. Адначасова рэдагаваў газету „Беларускае слова”, якая выходзіла тры разы ў месяц. У Віцебску была закончана і п'еса „Загубленае жыццё”, якая ўпершыню была пастаўлена на сцэне Віцебскага драмтэатра. Дарэчы, у 1943 годзе беларускі рэжысёр Вячаслаў Селях-Качанскі ажыццявіў пастаноўку гэтай п'есы і на сцэне Мінскага гарадскога тэатра. Пазней, на эміграцыі ў Германіі, разам з кампазітарам Міколам Равенскім, ён арганізуе эстрадную групу „Жыве Беларусь”, ставіць на сцэне „Загубленае жыццё” Тодара Лебяды. Вяртаецца да яе В. Селях-Качанскі і жывучы ў горадзе Элізабет (ЗША). А ў 1952 годзе ў Канадзе п'еса „Загубленае жыццё” выходзіць з друку асобным выданнем. І толькі ў 1995 годзе яна была поўнасцю надрукавана ў часопісе „Тэатральная Беларусь”.

Драма „Загубленае жыццё” Тодара Лебяды — гэта першая ў беларускай літаратуры антыбальшавіцкая п'еса, якая праўдзіва паказвае гады калектывызацыі і сталінскіх рэпрэсій на нашай пакутнай беларускай зямлі.

У акупіраваным немцамі Віцебску Пятро Шыракоў рэгіструе шлюб з артысткай Верай Жгут. Ён таксама падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі акцёрамі і пісьменнікамі, часта наведвае Мінск.

***(заканчэнне будзе)***

**Сяргей Чыгрын**

# „Патрыёты” адзін раз у год

Так можна смела назваць нашых людзей Беласточчыны. Перад Новым годам, а нават раней, усе жыхары нашых вёсак з маёй тэрыторыі масава просяць, каб даставіць ім навагоднюю „Ніву” з календарам, бо яны яе ахвотна купляюць. Такім я гавару:

— Дык „Ніва” да нас на пошту штотыдзень прыходзіць і калі ласка — купляйце яе, а я ахвотна прынясу ў вашу хату і яна нічуць не горшая ад навагодняй.

— О, не: такую я не куплю, бо я не ўмею чытаць па-беларуску і бедны — шкада грошай, — чую адказы нашых беларусаў.

Аж сорам бярэ за іх такія маналогі, за нелюбоў да роднага слова. Яны „бедныя”, аднак на лішняе, як гарэлка ці судовыя справы грошай не шкадуюць. А ёсць і такія, якія кажуць, што „Ніва” нецікавая. Дык я такому гавару:

— Адкуль ты ведаеш, што яна нецікавая, калі ты яе дваццаць гадоў у руках не трымаў?

І такі „знаўца” моўчкі адыходзіць не ведаючы што адказаць, бо хлусня і абман маюць кароткія ногі. Аднак „Ніву” з календаром я ўсім, хто яе прасіў, прыношу. Праўду сказаўшы, такая трансакцыя не прыносіць мне радасці і задавальнення, а хутчэй смутак, бо тут відаць як на далоні, якімі ў сапраўднасці ёсць нашы „патрыятызм і геройства”. Яны горшыя ад хваробы, бо хваробу можна вылечыць, а духовай мізэрнасці ніхто і ніколі не выправіць.

Калісь, калі „Ніва” была амаль дармная, я дабіваўся рэкордаў у падпісцы, бо меў па 200-300 падпісчыкаў. Але гэта не абазначае, што нашы людзі так яе масава чыталі — ім была патрэбная папера. Але ёсць на маёй тэрыторыі і жменька ніўскіх патрыётаў, якімі можна заўсёды ганарыцца.

**Мікалай Панфілюк**

# Святое месца ў Такарах



Аб узнікненні храма ва ўрочышчы Катэрка паблізу вёскі Такары расказвае царкоўны летапіс. У 1852 годзе ў дзень Святой Тройцы сялянка Еўфрасіння Івашчук пайшла збіраць шчаўе. Нечакана, быццам з-пад зямлі, з'явілася ёй жаночая постаць. Незнаёмая, незвычайная жанчына сказала Еўфрасінні, што свята было ўстаноўлена Богам для таго, каб людзі наведвалі храмы, а не займаліся працай. Дадала яна, што навакольнае насельніцтва падвергнецца пакаранню за свае грахі: Бог пашле на народ мор (прадказанне збылося ў 1853 годзе, калі ўспыхнула эпідэмія). Жанчына загадала Еўфрасінні падаць да мясцовага настаяцеля і сказаць яму, каб разам з прыхаджанамі прасіў прабачэння ў Бога. Жанчына таксама нечакана знікла. Сялянка была ўпэўнена, што з'явілася ёй Божая Маці.

Неўзабаве айцец Сымон Будзіловіч паставіў крыж (без ведама царкоўных улад) у месцы, якое паказала Еўфрасіння. З часам да гэтага месца спантанна сталі прыходзіць паломнікі — розных саслоўяў і веравызнанняў. Многія хворыя ў цудоўны спосаб атрымоўвалі тут аздараўленне. Былі такія дні, што цудадзейнае месца наведвалі тысячы паломнікаў. Духоўныя ўлады ўстанавілі спецыяльную камісію для вывучэння гэтай незвычайнай з'явы. Царква да такіх здарэнняў ставіцца скептычна і стараецца высвятліць усе абставіны цуду. Напалоханыя камісіяй і праваахоўнымі органамі людзі, якіх абвінавачвалі ў распаўсюджванні „ерасі", баяліся сказаць праўду.

У гэты час у маёнтку ў Такарах прабываў у брата асэсар Пётр Залескі. Імкнучыся ён пераканаць настаяцеля Аляксея Лячыцкага ў тым, што ва ўрочышчы Катэрка сапраўды здараюцца цудоўныя аздараўленні і паказаў яму свой дзённік, у якім запісваў здзейсненыя цуды. Аднак баючыся ён камісіі і дзённік — адзіны пісьмовы доказ аздараўленняў — спаліў. Камісія вырашыла: устаноўлены крыж перанесці на мясцовы могільнік.

З моманту з'яўлення крыніцы ў месцы перанесенага крыжа нанава аднавілася справа ўрочышча Катэрка. Паломнікі зноў пачалі прыбываць да цудоўнага месца і атрымоўваць палёгку ў хваробах і аздараўленні. Напрыклад, жонка дзяка царквы ў Мельніку, а. Мікалая Крэйдзіча, якая захварэла тыфам, выздаравела дзякуючы малітвам і цудадзейнай крынічнай вадзе. Еўфрасіння Івашчук памерла ў 1863 годзе.

Настаяцелі царквы ў Такарах рабілі захады, каб у гэтым месцы пабудаваць капліцу, тым больш што на трэці дзень Святой Тройцы, а таксама і ў іншыя дні, прыбывала сюды многа паломнікаў, якія ставілі свечкі і пакідалі ахвяраванні. Духавенству было тады забаронена адпраўляць набажэнствы ў цудоўным месцы. Па просьбе духавенства і прыхаджан епіскап Гродзенскі і Брэсцкі Міхаіл даў благаславенства на хрэсны ход з такарскай царквы ва ўрошчышча Катэрка. Вялікая была радасць прыхаджан, што збылася іхная надзея, што атрымалі яны духовую падтрымку і суцяшэнне ў сваіх пакутах.

9 мая 1909 года, на трэці дзень Святой Тройцы, быў закладзены краевугольны камень пад будову драўлянай царквы, а тры гады пазней новы храм асвяціў архімандрыт Яблачынскага манастыра. Царква Іконы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" была пабудавана на сродкі ахвяравальнікаў і прыхаджан. Асабліва вялікую матэрыяльную дапамогу аказала Анна Пятроўна Бранцава з Казані, якая пакутавала ад працяглай хваробы. Аднойчы пачула яна ў сне наступныя словы: „Тут аздараўлення не атрымаеш; едзь у вёску Такары Гродзенскай зямлі і там з цябе будзе знятая твая немач". Калі прыехала яна ў Такары і памалілася ля цудадзейнай крыніцы, атрымала ласку і аздараўленне.

Штогоду на трэці дзень Святой Тройцы і ў дзень ушанавання Іконы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" да ўрочышча ў Катэрцы ад дзесяткаў гадоў масава прыбываюць паломнікі. Дзяржаўная граніца, якая ўсталявалася пасля II сусветнай вайны, аддзяліла цудоўнае месца ад роднага прыхода і адначасна прыпыніла прыток паломнікаў з усходняга боку. Заснаваны ў 1946 годзе прыход, які ўстанавіў філіяльную царкву прыхадской, дбаў, каб вернікі маглі карыстацца святым месцам і мелі магчымасць шанаваць яго і маліцца.

5 чэрвеня 1990 года, на другі дзень Святой Тройцы, хрэсны ход з Такароў (на польскім баку) пайшоў у Такары (на беларускім баку). Удзельнічала ў ім 15 святароў і 3 тысячы вернікаў. Паломнікаў чакалі на беларускім баку тысячы мясцовых жыхароў. Да такой сустрэчы магло дайсці толькі дзякуючы пераменам 1989 года. Была яна доказам таго, што вера, малітва і памяць аб святым месцы захаваліся ў чарговых пакаленнях, а ікона Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" расцягвае апеку над вернікамі па абодвух баках дзяржаўнай мяжы.

Гісторыя іконы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" пачынаецца з цудоўнага з'яўлення ў 1688 годзе ў вёсі Ізлочкі каля Пецярбурга. Згаданая ікона падобная на абраз з 1684 года ў Праабражэнскай царкве ў Маскве. У 1688 годзе перад гэтай іконай сястра патрыярха Іаакіма Яўфімія атрымала цудоўнае аздараўленне. З гэтага часу да іконы сталі прыбываць шматлікія паломніцтвы. У 1711 годзе ікона была перанесена ў Пецярбург, дзе імператрыца Елізавета пабудавала для яе царкву.

Ікона Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" у царкве ва ўрочышчы Катэрка Такарскага прыхода знаходзіцца ў кіёце на правым баку храма. Намалявана яна на кіпарысавай дошцы памерамі 106 х 170 см, на выціснутым і пазалочаным фоне. Маці Божая прадстаўлена на іконе ў рост, акружаная хворымі, над якімі расцягвае сваё апякунчае покрыва. Па абодвух баках Божай Маці знаходзяцца выявы хворых і пакутнікаў, якімі апякуюцца анёлы. У гары іконы — Ісус Хрыстос у паясной выяве на воблаку.

Згаданая ікона пратрымала сусветныя войны і ў складаных хвілінах была суцяшэннем для тых, каму прыйшлося спазнаць цяжкасці бежанства і кашмары вызначэння граніцы, ды радасцю ў новых умовах жыцця. Ахінае яна апекай шматлікіх вернікаў.

**(агс)**

# У дарозе на марозе

Спатрэбілася мне з'ездзіць у Сацы. І вось у суботні марозны дзянёк, 3 студзеня, адправіўся я ў падарожжа. З шашы Беласток-Гайнаўка ў згаданую вёску можна даехаць дзвюма дарогамі: або з Жыўкова, або з Трасцянкі. Каб пазбегнуць клапатлівай дылемы з выбарам адшасэйнай дарогі рашыў я праехаца ў Сацы дарогамі міжвясковымі проста з Заблудава. Па карце вызначыў сабе маршрут, запамятаў каб у канцы Гнецюкоў павярнуць направа, а перад Сяськамі налева, і паехаў. Праз Гнецюкі праехаў як па карце, а вось у Сяськах дарогі ўлева не прыкмеціў, хаця ўглядаўся. Відаць, будаўнікі дарог не чытаюць картаграфаў і таму не праклалі па мясцовасці тую дарогу, якая красуецца на карце. Такім чынам заехаў я ў недалёчкія Алексічы. Алексічы, хаця вёска маленькая, але ўдаленькая — не толькі сваімі выхадцамі: там больш чым адна вуліца! Пакарыстаўся я гэтакім дарам тапаграфіі і, заміж у Сяськах, павярнуў налева тут; з Алексіч жа таксама можна кудысьці даехаць. Дарога, якая з'яўляецца прадаўжэннем алексіцкай вуліцы, неяк незаўважна перамянілася на поплаве ў замерзлыя калюжыны; калі б не мароз, дык хіба трэба было б тут падарожнічаць амфібіяй, а мо нат лодкай. Еду я тады далей, бо ж дарога усё-такі некуды павінна давесці, асабліва калі на ёй пазначаны нейкі след. След той вядзе да хутароў, за якімі ўдаецца мне адкрыць „гасцінец" і ўбачыць у воддалі контур быццам вёскі; гасцінец той — гэта замерзлая гразь. Пад'язджаю да вёскі: не відаць ніякіх указальнікаў — няма, відаць, на іх запатрабавання. Мясцовыя і так усё ведаюць, а якая ж навалач стане праз балотністыя паплавы дабівацца на гэты край свету? Еду памалу брукаванаю вуліцай і спыняюся каля пажылой жанчыны, што выйшла зірнуць на сваю вуліцу — пабачыць, што новага дзеецца ў яе свеце.

— Якая гэта вёска? — пытаю.

— *Стрыльціе*, — адказвае і, заўважаючы маю разгубленасць, дадае: — Давідавічы.

— А ў *Сацыэ* то мне трэба *просто* ехаць?

— *Просто*.

Ну, уздыхнуў я з палёгкай, удалося ўстанавіць загубленыя каардынаты. Але за вёскаю спыняюся зноў — дарога перада мною разыходзіцца: больш езджалая паварочвае направа, а проста — менш езджалая. Гляджу на карту, тае дарогі, што ўлева, на карце няма і рашаю ехаць проста. Дарога — замерзлыя гразь і снег — прыводзіць мяне ў Сацы; у Сацах таксама не адна вуліца. Трэба мне пад *млечарню*, якое на першай вуліцы не знаходжу. Паеду тады на другую, паралельную першай, лагічна вырашыў я і хвацка павярнуў налева — проста ў засыпаную снегам лагчыну. Асадзіў я назад і ўдалося мне прапіхнуцца бокам — вузкім берагам каля дрэва.

Знайшоў я патрэбнага мне чалавека, пагутарыў хвілін пару ды спытаў яшчэ пра дарогу ў Трасцянку.

— Ты едзь у Жыўкова, там асфальтоўка, бо проста ў Трасцянку не праедзеш, — параіў ён мне, маючы на думцы тую заснежаную лагчыну.

Я аднак яго не паслухаў і зноў прапіснуўся берагам лагчыны. Дарога з Сацоў у Трасцянку — замерзлыя гразь і снег. А ў самой Трасцянцы асалоду, пасля падарожных перыпетыяў, даставіла мне арганізацыя руху пры ўездзе з Сацоў: за дарожным знакам „галоўная дарога" нейкія дваццаць метраў далей стаіць знак „канец галоўнай дарогі". І вось на тых дваццаці метрах я мог шчасліва ўявіць сябе ў ролі Хакінена ці Макінена і разагнацца, і затармазіць на змерзлым гразевым палотнішчы цяпер ужо „галоўнай дарогі".

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Як вінтоўка

Прачытаў я цікавы артыкул пяра Міхала Мінцэвіча п.з. „Кніжка — як вінтоўка" („Ніва", н-р 51). Цешыць сэрца тое, што кніжка яшчэ ў павазе ў Орлі, дзе гмінная бібліятэка сумленна і ахвярна вядзе сваю дзейнасць, і што знаходзяцца людзі, нават старэйшыя, якія кніжку ніколі не памяняюць на тэлебачанне; да такіх людзей належу і я. Непатрэбна былі знішчаны творы Маркса і Энгельса, але гэта быў неразумны загад зверху. Лепш было прадаць або нават дарам аддаць людзям гэтыя кнігі. І сумна яшчэ, што беларускія і рускія кніжкі не цешацца папулярнасцю, але гэта ўсюды дзеецца. А шкада, бо для мяне беларускія і рускія кніжкі — найдаражэйшы скарб. На жаль, сёння маладыя людзі думаюць інакш, а старэйшыя на кніжку і не глядзяць. Такая праўда.

**Мікалай Панфілюк**

# Аб вайне і арлянскіх яўрэях

**Расказвае 82-гадовая жыхарка Орлі Зофія НЯДЗЕЛЬСКАЯ.**



Яўрэі ў Орлі былі вельмі інтэлігентныя і культурныя людзі. Я пры іх жыла дваццаць пяць гадоў, але ніколі не бачыла п'янага яўрэя. Займаліся яны пераважна гандлем. Тады не было праблемаў з продажам збожжа, каня ці гусей. Ездзілі гандляры па вёсках і скуплялі ўсё: фрукты, гароднну, збожжа, анучы. Ячнік купляў яйкі, курэй. Нішто тады не марнавалася.

Яўрэйская моладзь апраналася вельмі модна, бо ў іх былі сваякі ў Амерыцы, якія прысылалі шыкоўную вопратку. Мы спецыяльна хадзілі пасля абеду на рынак, каб паглядзець у што апраналоцца яўрэйскія модніцы. Былі гэта прыгожыя жанчыны.

Жаніліся яўрэі між сабою і пасля доўгага знаёмства. Нярэдка нават пасля васьмі гадоў. Сям'я маладой рыхтавала багаты пасаг. Бедным яўрэйкам цяжка было выйсці замуж. Здараліся і старыя дзевы, якіх называлі матронамі. Калі жаніліся бедныя, іншыя яўрэі ўспамагалі іх — збіралі ім грошы ў бажніцы падчас шабасу і ў яўрэйскай школе.

Памятаю яўрэйскія вяселлі: на сталах было многа ласункаў, арэхаў, піражнага. Госці пілі па адным кілішку слабой кашэрнай гарэлкі. На танцах не толькі гулялі, але і спявалі. Гэта быў вясёлы народ. Маладых вянчаў рабін на дарозе перад Вялікай Сінагогай. Шлюбная пара ставала на спецыяльным дываніку, пад балдахінам. Вэлюм маладой закрываў галаву спераду. Калі маладыя абмяняліся пярсцёнкамі, тады рабін падаваў ім віно. Потым кілішак кідалі далёка за сябе, каб разбіўся.

**Яўрэйскія святкаванні**

Яўрэі адзначалі некалькі важных свят — Пасху, Рош Гашанэ (Новы год), Йом Кіпур (Страшны дзень), Сукот (Кучкі). Гэтае апошняе святкаванне адзначалася восенню і працягвалася яно восем дзён. У каго быў ганак каля хаты, то выносілі там столік, а калі не, то рабілі кучкі (шалаш) на панадворку. Кучкі прыпаміналі яўрэям пра разбіванне шалашоў іхнімі продкамі ў час вандроўкі з Егіпта цераз пустыню.

На Страшны дзень усе яўрэі ішлі маліцца ў бажніцу. Там гарэлі тоўстыя паўметровыя свечы. Нашы маладыя жулікі часта пускалі ў бажніцу варону або голуба. Спалоханая птушка лётала па святыні і тушыла свечкі, а яўрэі галасна лямантавалі.

Пурым — аднадзённае свята на тыдзень перад Пасхай. Тады мы хадзілі „калядаваць". Спявалі мы песні, якіх вучылі нас у школе, напрыклад, „Oj, w polu jezioro", а яўрэі давалі нам грошы або булкі.

Пасху старазаконныя святкавалі восем дзён, але ў сярэдзіне святкаванняў былі рабочыя дні. Да гэтага свята яўрэі пяклі мацу — такія вельмі тонкія аладкі з мукі, посныя і на яйках. Гэтыя другія былі прызначаны для гасцей. Посныя аладкі потым таўклі ў ступе на куццю і з яе варылі „мацфарфу" — зацірку.

**Пахаванне**

Яўрэі вельмі плакалі на пахаванні, а калі ў пакойніка не было сям'і, тады наймалі плачку, для якой грошы ўкідвалі ў кубак. Пры маладзіку нябожчыка накрывалі чорным сукном і неслі высока на насілках. Магілу абкладвалі дошкамі, а нябожчыка, абкручанага прасцінай, апускалі ўніз, на вочы клалі „чарапок" і засыпвалі зямлёю. Усіх хавалі галавой у адзін бок.

**Могілкі**

У Орлі былі два могільнікі. Адзін стары, на якім хавалі за царскага часу, знаходзіўся на Пасвентнай вуліцы (цяпер Чырвонай Арміі) — ад сённяшняга пажарнага дэпо да вуліцы Жвіркі і Вігуры. З боку палёў раслі там хмызнякі, вербы і грушы. Мы там бегалі збіраць грушы. Новы могільнік вызначылі пры дарозе ў Шчыты. Потым немцы ў 1942 годзе надмагільныя камяні (мацэвы) загадалі вывезці на будову дарогі з Орлі ў Вульку, да чыгуначных рэек. Да нашага часу захавалася каля 50 мацэваў на новым могільніку, які мы называем „кворэс".

**Кафляныя заводы**

У Орлі былі тры заводы, якія выпускалі кафлю. Усе яны былі ўласнасцю яўрэяў, а працавала ў іх больш за 200 рабочых. Самая вялікая кафлярня належала сям'і Вайштынаў (пасля вайны яе разбудавалі і працавала яна да 90-х гадоў). Гатовыя кафлі раз у тыдзень вывозілі на фурманках у Бельск, а там грузілі ў вагоны. Рабочыя былі задаволены, бо Вайштын добра плаціў.

**За першага савета**

Калі ў верасні 1939 г. адступілі немцы і прыйшлі саветы, тады Вайштына вывезлі ў Расею, а кафлярняй стаў загадваць савецкі чыноўнік Лейкін. Ён забраў да сябе таксама пажарны духавы аркестр. У цэнтры Орлі, за царквою яўрэй Ошар адкрыў спецыяльна для старэйшых рангам савецкіх салдат сталовую з алкаголем. Арлянскія яўрэі пераважна займаліся гандлем і баяліся, каб саветы не забралі ім крамаў, або не абакралі. Савецкія салдаты куплялі танныя квяцістыя тканіны для дому. Неўзабаве паліцы зусім апусцелі, не было нават цукру і мыла. Гэтае апошняе можна было дастаць у салдат за паўлітра гарэлкі. Урэшце людзі самі сталі варыць мыла са старога мяса, сала, падла і каустычнай соды.

**Акупацыя і два гета**

Немцы ўжо ў 1941 годзе пачалі перасяляць людзей. Жыхароў хутара Антанова перавялі ў Орлю, на вуліцу Новая шаша (цяпер Свярчэўскага). Усіх яўрэяў выгналі на канец Орлі і адзялілі гэтую частку мястэчка калючым дротам, ствараючы два гета — меншае і большае. На Кляшчэлеўскай вуліцы паставілі браму, за якую яўрэям нельга было выходзіць. Было так, што некаторыя яўрэйскія майстры працавалі ў Тапчыкалах і калі немцы даведаліся аб гэтым, дык на месцы іх і застрэлілі.

Нашу хатку таксама немец прадаў у Рутку і мы сталі жыць у апусцелым доме яўрэйскага каваля, які знаходзіўся каля рэчкі Арлянкі. Яўрэі жылі ў гета, але вечарам прыходзіў тайком яўрэй Вайштын і хаваў у нас пад падлогай фасолю, сала, усё, што дастаў ад людзей. Тады яўрэі елі ўсё.

На даху Вялікай сінагогі немцы наладзілі назіральны пункт, на якім дзяжурыла дзевяць салдат. Кожнага вечара з паасобнай вуліцы назначаўся патруль, якія меў засцерагаць мястэчка ад партызан. Жыхарам сталі выдаваць нямецкія дакументы. Нямецкім камісарам у Орлі быў Сандэцкі.

У суботу, перад святам іконы Казанскай Божай Маці, калі я змывала падлогу, прыйшоў да нас гаспадар дома, яўрэй Лэйзар і кажа: „Нядзельская, заўтра за намі прыедзе 15 падводаў з саломай, па нашы душачкі. Вы жывіце ў гэтым доме... Можа я вярнуся, тады палову дома запішу вам". Назаўтра немцы пагрузілі на падводы старэчаў і жанчын з дзецьмі, а астатніх выстраілі ў шарэнгі і ўсіх пагналі на чыгунку ў Бельск. Гэта была іх апошняя дарога. З Траблінкі ніхто ўжо не вярнуўся, усіх спалілі.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Ратунак

Вярнуліся з Нямеччыны вясною сорак пятага. Чалавека не было яшчэ, я і надзею страціла, ужо думала, што ён, вытрымаўшы ўсю вайну, жыццё аддаў за рускімі. Ано хадзіла, енчала, бо наша месца занялі сваякі і думаць не думалі, каб на сваё ісці. Урэшце перабраліся, але пакуль тое, што я ўсё хадзіла, прасіла па суседзях, каб хто поле зараў, каб пару кошычкаў бульбы пасадзіць далі на зіму, каб дзеці з голаду не памерлі. А муж вярнуўся, весь апухлы, у кастрычніку, дзіўны якісь, такі прыбіты.

Дачакалі мы другое вясны. А маміны браты пабудаваліся каля Белавежы, у лесе, у іх свой хлеб ужо быў. Нават на самагонку хапала. Мамін брат найменшы гнаў яе з хлеба. Убачыў, што я канцоў не магу звязаць, дык кажа: „Ведаеш што, дзіця, прыходзь, бяры ў мяне гарэлку, насі прадавай". А ў нас там у ваколіцы заўсёды п'яніцы былі. Ну, я і ўзялася таргаваць тою гарай. А да дзядзькі трэба было ісці аж 12 кіламетраў. І я кожны тыдзень, а калі не, то праз дзве нядзелі, шла ў той бок а потым ноччу валакла шасцілітровы круглы шкляны буталь. А абівайся ж ён мне па спіне! Каб пляскаты быў, неяк плечачок зрабіла б, лягчэй было б несці. А то ўб'юся — то ў адну руку пераківу, то ў другую, то зноў на плечы, і так лесам, каб ніхто не бачыў. Мяне не надта слядзілі, прынясу гэта ў Й., пасля, калі зноў пачне змяркаць, цягну да нас, схаваю. Я вось прывалаку тую гарэлку, у бутэлькі разліваю, а чалавек мой нават не хоча да яе даткнуцца. Такое *путо* было з яго, не да жыцця.... А ў нядзельку ўсё тое прадам. І раблю людзям за кусок хлеба. Жыць жа трэба, карміць дзяцей. А жылі ж мы на голым пасля вайны, вёска была спалена фашыстам... Так Бог дае чалавеку труд, каб выжыў...

Дачакаліся вясны. Людзі дапамаглі, далі бульбы. Я з восені жабравала была, не дай Божа! Зайду ў С. Тамашнія бабы дзівяцца: „Дзесь ты знаёма кабета, скажы, адкуль сама?" — „Не пытайцеся, адкуль я вам знаёма, а дайце мне колькі хто можа жытка, мне яго змелюць, я хлеба дзецям напяку". І да кавала была зайшла, прадала яму пару метраў тканіны, што з Нямеччыны прывезла, даў мне за яе мех зерня, і нажабравала я мех жыта, і на цалюткую зіму быў дзецям хлеб...

А во і цёпла стала. Аж нарваўся адзін чалавек. Прыйшоў да мяне, кажа: „Чуў, ты прадаеш гарэлку смачну, з хлеба. Ты мне ў кожны ранак, дасі яе па кілішку". А да майго чалавека і не азываецца, той сядзіць як нежывы. „Байкі, не прайграеш. Я не маю грошай так плаціць, але ты знаеш, хто я? Я — гаёвы, у мяне цахоўка ў кішэні. Я з тваім не гавару, бо якісь дзіўны ён... Я табе памагу. А піць не буду кожны дзень, толькі тады, як мне трэба будзе..."

Пахадзіў так да мяне. Ён дадому — мой мужык з хаты. Гаёвы ўзлаваўся: „Чаго ты выходзіш?! Я прыйшоў кілішак выпіць. Не-не, я сваю жонку маю!!! Я вам хачу дапамагчы". А ён усё ж выйшаў на растрэсены ганачак, маўчыць. Гаёвы кажа мне: „Шукай на заўтра пілу ды сякеру". А ў мяне няма іх. Кажа сусед: „Ну, бяры ў мяне, але ты сваё *путо* разварушы, каб таксама ішоў!" Гаёвы кажа: „Будзь і ты ў лесе. Ведаеш кварталы у пушчы?"

На другі дзень прыходзіць ізноў і кажа: „Знайшоў я клён, сасну і яліну сухія, усё прыгатовіў. Е піла і сякера? Заўтра ранютка каб былі там і там". Я ўзяла паўбутэлечкі гарэлкі, хлеба кусочак, суседка дала да хлеба. І пайшлі цераз рэчку.

Гаёвы сядзеў ужо на пянёчку, чакаў. Ну, кажа, скідайце летнікі і шапкі, будземо палоць што трэба. І ўзяўся, разам з усімі, за працу. Столькі нарэзалі, што хапіла на хлеў у тры дзверы, і клуню, і хату. На латы, на крoквы, на ўсё. А гаёвы такі майстар — як секане сякерай, то як хтосьці гэблікам! Нашыкавалі дрэва, наспускалі, пацерабілі...

Склалі дрэва на падворак. Давай я пытаць у людзей, дзе мне да яго траха знайсці. Прыйшоў цётчын сын і кажа: „Дасі мне ад метра, той я прыйду рэзаць, у мяне е піла доўгая". А я сваяку: „Мой чалавек не здужае з табою рэзаць, бо ён хворы і галодны, а ў цябе ёсць хата, у хаце хлеб і да хлеба. Ён з табою не выцягне". Тады настроілі мне С. з М., і той хлопец згадзіўся памагаць за... літар гарэлкі. Я кажу дзецюку: „Ты, я з Нямеччыны прывезла такі летнік харошы, ты ж сіраціна, абарваны, абшарпаны". Дала яшчэ таму хлопцу ганавіцы, падштаннікі, сарочку, кашулю і рубашку. Елі работнікі тое што і мы — таўканіцу, крупнік і сякі-такі боршчык, абы хлеб быў. І зрэзалі мне ўсё на будову. Так мяне Бог пашкадаваў...

А тую няшчасную гарэлку насіла я яшчэ тры гады. Гэта ўсё каб выжыць. А пушча нас ратавала.

Пра ўсё жыццё з мужам гаварыць не буду. Адным словам — біў.

Двух сыноў я пажаніла. З хаты на старасць выгналі. Цяпер жыву ў дачкі, таксама ўжо бабулькі. Па начах плачу, хоць мне ў яе добра. Кажуць: „Не плач, бо ёй прыкра; яна ж цябе глядзіць, есці табе дае, вядро тваё носіць, а ты плачаш?!" І глядзіць мяне, і слова скажа. А колькі старых нас тут у пушчы гібее...

**Запісала Міра Лукша**

# Багаты беднаму не таварыш

Сэрца забалела, — думаю, што не толькі мне, — калі зноў амерыканскія і англійскія „дабрадзеі" варварска напалі на Ірак. Нельга абыякава і з лёгкім сэрцам глядзець, калі ад бамбёжкі гінуць мірныя людзі, а ў іх ліку дзеці, дзядулі, бабулі, жанчыны, малады цвет. У руіны ператвараюцца шпіталі і цэлыя кварталы дамоў. Дзеля чаго амерыканцы і англічане бандыцка напалі на гэтую краіну? А з простай прычыны: прэзідэнт Ірака Хусейн і яго народ не ўпалі на калені перад сусветным капіталізмам, а галоўна — перад Амерыкай, так, як амаль рэшта ўсіх краін, у тым ліку і Польшча, якая заміж асудзіць аперацыю „Пустынная ліса" яўна цешыцца і гатова даць сваю долю гэтаму нападзенню; забыла яна верасень 1939 года, калі гітлераўцы бамбілі Варшаву і іншыя гарады. Веруючы Клінтан з усмешкай даў загад напасці на непакорны Ірак, бо той яшчэ не слуга Амерыкі. Тое, пра што ўсюды брэшуць, што быццам Ірак прадукуе смяротную зброю, якая з'яўляецца пагрозай яго суседзям, асабліва Ізраілю, і іншым краінам свету — гэта байкі і хлусня. І не верце, добрыя людзі, гэтай таннай амерыканска-англійскай прапагандзе. Яны брэшуць толькі дзеля апраўдання сябе і сваіх подлых учынкаў. А яны што трымаюць у сваіх складах і далей безупынна прадукуюць? Страшна пра гэта і думаць. Бо яны багатыя і ім усё дазволена, а беднаму нават піснуць нельга, бо гэта ўжо вялікае злачынства. І не без рацыі Клінтан ратуе свой прэзідэнцкі столак, бо за яго ўзяліся за аферу з Лявінскі, калі ён з ёю „цуда" рабіў, а пасля выбараў, калі прысягаў на Біблію, нічуць пра тое не сказаў. Значыць — ілгаў. Цяпер утрымаецца на сваёй пасадзе, бо большасць сенатараў у Белым Доме — гэта ястрабы і яны любяць даваць загады, каб знішчаць сваіх палітычных ворагаў. Думаю, што краіну можна знішчыць, але не народ. Калісь В'етнам бамбілі і нішчылі выпрабоўваючы навейшую сваю зброю, і ўжо здавалася, што жывога духа там не засталося, аднак не адолелі народа і яго духа і прымушаны былі ўцякаць у свой амерыканскі рай. І сёння нападзенне на Ірак — гэта жывы эксперымент амерыканскай, англійскай і ўсяго НАТО зброі. Народы свету павінны біць трывогу і асуджаць такія бандыцкія акцыі, і не біць брава, як гэта робіць Польшча. Расія — маладзец, што вострa асудзіла гэты звярыны паступак. Бяда толькі, што цяпер Расія разбітая і бедная, каб стаць пляччо ў пляччо з Іракам і даць бой тым, што хочуць правіць цэлым светам. Расія павінна пляччо ў пляччо стаць з брацкім народам Сербіі і паказаць як вырашаць канфлікты. Не сакрэт: гэта ЗША прычыніліся да апусташэння, беднаты і маразму Расіі. І не дарма яна, Расія, — не паклоннік расшырэння НАТО, бо ведае, што гэта меч супраць яе.

**Мікалай Панфілюк**

# Сустрэча донараў

30 снежня 1998 года па ініцыятыве Раённага праўлення Польскага чырвонага крыжа ў Гайнаўцы чаромхаўская Гмінная ўправа арганізавала сустрэчу з донарамі (з людзьмі, якія аддаюць кроў). Запрошана было адзінаццаць ганаровых донараў, якія на працягу года аддалі 154 380 мілілітраў неацэннага лякарства.

Найбольш аддалі крыві Тамаш Сасноўскі з вуліцы Фабрычнай (41 150 мл), Генрык Врона (22 600) з вуліцы Длугай, Ян Шатыловіч з вёскі Чаромха (14 550) і Яўгеній Жук з вуліцы Фабрычнай (14 000). Трэба адзначыць, што Тамаш Сасноўскі і Ян Шатыловіч з'яўляюцца шматгадовымі членамі таварыства ганаровых донараў, якое існуе пры Ваяводскай станцыі донарства ў Беластоку. У гэтым годзе Таварыства адзначае юбілей саракагоддзя сваёй дзейнасці.

З гэтай нагоды старшыня Таварыства ганаровых донараў у Беластоку паслала падзяку войту Чаромхаўскай гміны, у якой пішацца: „Таварыства ганаровых донараў (...) у Беластоку сардэчна дзякуе жыхарам Чаромхі за аддаванне крыві. (...) Праўленне дапамогі ў рамках донарства тым, хто яе патрабуе з'яўляецца справай годнай пашаны і перайманння".

Спасылаючыся на службовае пісьмо Раённага праўлення ПЧК у Гайнаўцы, войт ацаніўшы маральнае аблічча сваіх донараў, уручыў Тамашу Сасноўскаму і Яну Шатыловічу талоны на суму 200 зл., а Лявону Шымусюку, Яну Станьчыку, Генрыку Вроне, Яцэку Хрусьвіцкаму, Кшыштафу Герынгу, Яўгену Салінскаму, Яўгену Жуку, Аляксандру Рэю і Сцяпану Назаруку талоны па 100 зл.

Уручэнне ўзнагарод адбылося на сесіі гміннай рады ў прысутнасці радных і запрошаных гасцей.

**Уладзімір Сідарук**

# Калядоўшчыкі — на агляд!

У суботу, 16 студзеня г.г. у Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 адбудуцца XIX Ваяводскія сустрэчы калектываў калядоўшчыкаў. Пачатак мерапрыемства а гадзіне 16.

* * *

У нядзелю, 17 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбудзецца гмінны агляд калядоўшчыкаў. Пачатак у 13 гадзін.

**(гай)**

# Брацтву патрэбна падтрымка

Праваслаўнае брацтва святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку сарганізавала вечаровы універсітэт праваслаўнай культуры для дарослых і моладзі. Яго мэта — паглыбленне ведаў на тэму праваслаўнай веры ды гісторыі і культуры, неад'емна звязанай з нашым веравызнаннем. Апрача таго брацтва праводзіць шэраг навуковых канферэнцый і сустрэч у розных асяродках, у ходзе якіх ставім цяжкія і складаныя пытанні сужыцця розных веравызнанняў і нацый. Такім чынам хочам фарміраваць хрысціянскія адносіны, якім характэрны ўзаемная талерантнасць і зразуменне. Нашы мерапрыемствы адкрыты для ўсіх — праваслаўных, каталікоў і прадстаўнікоў іншых канфесій.

Узаемаразуменне патрабуе частых сустрэч, размоваў, асэнсавання рэлігійных ведаў, што ў сваю чаргу з'яўляецца перадумовай фарміравання маральных паводзін і карэктнага сужыцця. Патрэбна яно для вырашэння надзённых грамадскіх праблемаў, асабліва ў працы паасобных установаў, прадпрыемстваў, самаўрадаў.

І католікі, і праваслаўныя мусяць навучыцца жыць згодна пад супольным польскім небам, у супольнай Айчыне, як брат з братам, а не побач сябе і скоса паглядаючы адны на адных.

Праваслаўнае брацтва звяртаецца з гарачым заклікам падтрымаць нашы дзеянні і па меры магчымасці перадаваць фінансавыя сродкі на наш рахунак: Bractwo Prawosławne Św.Św. Cyryla i Metodego w Białymstoku, PBK S.A. O/Białystok, nr 11101154-7793-2700-1-15 з прыпіскай: „Zbliżenie Wyznań".

Думаем, што нашы дзеянні, падтрыманыя Вашай дапамогай, хаця ў нейкай ступені паспрыяюць дасягненню вызначанай намі мэты. Узаемная талерантнасць і акцэптацыя веравызнанняў і нацыянальнасцей у дэмакратычным ладзе з'яўляецца асновай поспехаў і дасягненняў.

**Намеснік старшыні Брацтва**
**д-р Ян Зенюк**

# Вер — не вер

Сніцца, што ўваходжу я ў будынак, дзе працую, у сакратарыят. І бачу там балаган — поўна нейкай вопраткі ляжыць на падлозе. Аглядаюся, а тут, у калідоры, урачысты сход. На ім адны мужчыны. Сядзяць яны, святочна апранутыя, многа іх, усе месцы занятыя. Гледзячы на іх, я пытаюся ў сяброўкі: „Чаму гэта сход у калідоры?" А яна мне адказвае: „Гэта не калідор, гэта зала". Сход гэты быў з нагоды ўзнагароджання аднаго навуковага працаўніка (не з нашага калектыву) вялікай узнагародай. Потым увахodзіць у сакратарыят адна з нашых працаўніц. Яна трымае ў руках дзве авечыя, вялікія скуры. Абедзве вырабленыя. Адну, бэжавую, яна дае мне, а другую, больш карычневую, бярэ сабе. Што мяне чакае? **Ірына**

Ірына! У цябе на рабоце адбудуцца, бадай, нейкія перамены. Балаган, які ты бачыла ў сакратарыяце, прадвяшчае наогул перамену працы або кватэры. Думаю, што твой сон датычыцца працы, бо ўсё дзеялася там.

Тыя мужчыны, якія сядзелі ў цябе на рабоце, ды было іх так многа, што ўсе месцы былі заняты, могуць абазначаць для цябе страту самастойнасці. А сама ж ты, бадай, ведаеш, што гэта значыць, калі чалавек не можа вырашаць нічога сам за сябе.

Прабач, даражэнькая, але і тыя вырабленыя скуры, якія прынесла адна з вашых працаўніц, ды яшчэ адну дала табе, прадвяшчаюць аднастайнае, сумнае жыццё.

Але, можа, неяк усё абыдзецца.

**Сэрцайка**

# Дэмаграфічны мінус

Нараўчанская гміна займае плошчу ў 339 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва тут зусім малая — 14 чалавек на 1 квадратны км. Лясы займаюць ажно 22 тысячы гектараў: больш чым палову абшару, у значнай частцы — гэта Белавежская пушча.

У 35 вёсках і хутарах Нараўчанскай гміны пражывае цяпер 4 907 чалавек, у тым ліку 2 475 мужчын і 2 432 жанчыны. Найбольш у Нараўцы — звыш тысячы жыхароў, у Семяноўцы, Старым Ляўкове, Скупаве, Новым Ляўкове і ў Міклашэве. Лічба жыхароў гміны даволі рэзка змяншаецца. Трынаццаць гадоў таму Нараўчанская гміна налічвала 6 570 мужчын і жанчын. У 1990 годзе пражывала ў ёй 5 330 асоб, а цяпер — 4 907, значыць, менш на 423 асобы.

У 1997 годзе ў гміне нарадзілася 31 дзіця ды памерла ажно 78 чалавек. Пажанілася 27 пар. У 1998 годзе нарадзілася 29 дзяцей, у тым ліку 22 хлопчыкі і толькі 7 дзяўчынак (найбольш у Нараўцы — 7 і ў Старым Ляўкове — 5) ды памерла 66 асоб. Пажанілася 16 пар. Усяго па адным дзіцяці прыбыло ў Скупаве, Новым Ляўкове, Тарнаполі, Капітаншчыне, Парослым, Міклашэве, Плянце, Грушках, Новай Луцэ, Альхоўцы, Гушчэвіне, Заблотчыне і ў Свінароях, а па двое — у Лешуках і ў Стачку.

**(гай)**




**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 lutego 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка


Мал. Алега КАРПОВІЧА

**Дысірамбы нашым**

## Herbster

Адзін MaJESTy — Her(r)B(E)STer —
Палкі як winCHESTer,
Не апранаўшы VESTment на CHEST —
Бо *нетленный* ён як АзBEST,
У верасні, быццам ГеФЭСТ,
Схапіў DESTral, падвёў harVEST.
І атрымалася sr-amNESTia.
Наш kumaka — заеBESTыя!

**Адам Маньяк**

**Слоўнік:**

Herbst (*ням.*) — восень; herbster (*hiesigdt.*) — асенні.
Majesty (*англ.*) — вялічаства.
Herr (*ням.*) — пан.
best (*англ., ням.*) — найлепшы.
winchester (*англ.*) — від агнястрэльнай зброі.
vestment (*англ.*) — аблачэнне.
chest (*англ.*) — грудзі.
Аз — праславянскі асабовы займеннік; першая літара царкоўна-славянскага алфавіту; першае слова Дэкалога.
Гефэст — старажытнагрэчаскі бог агню.
destral (*ісп.*) — сякерка.
harvest (*англ.*) — жніво.
срам (*рас.*) — сорам; другія значэнні гэтага ўпарадкаванага набору літар (у тым і лацінскіх) у нехамскім лінгвістычным абшары не ўстаноўлены.
amnestia (*польск.*) — адпушчэнне; *сін.*: rozwolnienie (*польск.*).
nest (*англ.*) — гняздо (у кантэксце: сваё).

# Двухлітарная крыжаванка




**Гарызантальна:** 1. Васіл, балгарскі змагар за незалежнасць (1837—74), 3. племя ў Заіры, 5. горад на поўнач ад Даўгаўпілса, 7. ігральная карта з відарысам жанчыны, 9. парадны мужчынскі сурдут, 10. егіпецкі фараон XVIII дынастыі, які царыў у 1351—42 гг. да н.э., 11. прадмет жаданняў, імкненняў, 12. сталіца Бангладэш, 14. П'етра, італьянскі кінарэжысёр (1914—74), 16. хімічны элемент н-р 83, 17. куст сямейства вярбовых.

**Вертыкальна:** 1. горад між Барселонай і Сарагосай, 2. выспа на ўсходзе Міжземнага мора, 3. інданезійская выспа і мора на ўсход ад Явы, 4. Бела, венгерскі кампазітар, аўтар оперы „Замак герцага Сіняя Барада" (1881—1945), 6. Дуайт, прэзідэнт ЗША ў 1952—61 гг., 8. экзамен спеласці, 9. непрынцыповая апазіцыя групавога характару, 11. дзяржава з Лілонгве, 13. пасудзіна для свінні, 14. травяністая расліна на канаты, якая расце пераважна ў Індыі, 15. пахучы алей для царкоўных абрадаў.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 49 нумара**

**Гарызантальна:** ачко, Вітка, смутак, атам, Гашак, Іаанна, Бабруйск, Рохас, Жмерынка, прэлюдыя, вайна, Скобелеў, космас, Цромі, Івіч, Харлем, Брага, Адам.

**Вертыкальна:** Вігано, Шкраба, Чатэрджы, осмій, бурак, вапна, Касцюшка, Астравец, рыпс, хрэн, гной, каза, мяцеліца, Аўрора, Няміга, Іокаі, смала, Осіма.

Рашэнне: **Уладзімір Караткевіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# Кароткі курс параноі

**Адрыжка сацрэалізму**

Юрась Бузук, Першы Акцёр Задрыпоніі (ПАЗ), будучы на княскім культпарадзе, ганіў старога князя (сатана, спакушальнік, касавокі) і адначасова славіў новага ўладара (дабрадзей, вялікае сэрца, блакітныя вочы). Пры нагодзе абгадзіў гільдыю творцаў. Сам доктар навук, вынес і навуковы прысуд: пакутуе творчая сфера на палавое бяссілле і курыную слепату — не ўбачыла шанцаў, якія адкрыла ёй новае прышэсце, не ўславіла з'яву. І помсцячы, ушанаваў ордэнамі мастацкіх лізаблюдаў сатаны.

Правільна, дык сатана і бузацёра аблашчваў чым толькі мог: вучобай, тытуламі, кар'ерай.

**Незвычайны дыверсант**

Чэслаў Кішчак аб перамовах з апазіцыяй:

*W pełni zdawałem sobie sprawę z tego, że wypuszczamy diabła z butelki, do której nikt go już z powrotem nie zagoni, że Polska po Okrągłym Stole będzie już inna, lepsza.*

Вельзевул у ролі дабрадзея? Генеральская логіка? Валенрод у скуры шэфа МУС?

**А дулю бачылі?**

За сталінізму — сталіністка, за рэвізіянізму — рэвізіяністка, за сіянізму — сіяністка, за забугрызму — забугрыстка, за Салідарнасці — салідарыстка. І павестка ў суд: саўдзельніцтва ў забойстве генерала „Ніля" (1953).

— Заўсёды наперадзе, а цяпер назад? Во, вам, таварышы па зброі, мой адказ! — працягвае з Лондана таварка „Лена" аблуплены ў мардабою кулак.

........

Стражнікі „рэвалюцыйнай чысціні" пільныя. У выгадны для сябе момант гавораць: Стоп! Ад сёння буду лічыць сябе ворагам рэвалюцыі.

І часта становяцца сумленнем нацыі, рэдка — прайгранымі.

Убіўся ў балота

**Сідар Макацёр**

Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:

Сексаголік, замест у бонды,
На Багдад спускае пломбы.
Што прыспічыла, пахан,
Агаляцца ў Рамадан?

Галяк ты — не прэзідэнт!
Я — за ўдалы прыспічмент.

---

**Фрашкі пра нашых**

## За наша і ваша

Мой сябра ў турбоце
(Мінскі ён, дарэчы)
Не спіць на рабоце,
Добры і сардэчны,
Сочыць, пільна дбае,
Каб было ўсё ладна
Ў нашым мілым краі
Ўладам падуладным.
З неспакоем звоніць
Мне ў польскую хату:
„Чаму ж *вы* так склонны
Беларусь... забраці?!
Так **наша** паганіць,
Супраць Беларусі?!"
Думаю: „Ссатанеў?!!"
Але ж адазвуся,
Без злосці і плачу:
„Рознай Беларусі
Мы дабро тут бачым?"

**Вандал Арлянскі**

# Палымяны Кастэнты

На Новы год напрыканцы другога тысячагоддзя Кастэнты амаль не страціў пальцаў правай рукі. Перажыў, бачыце, дзве сусветныя войны, леваруцыі, праварцыі, войны хатнія і суседскія за мяжу, меў дачыннe да мінаў, гранатаў і кацюш, а раніў-кантузіў яго феерверк!

А гэта ўсё кара боская за тое, што намерыўся быў Кастэтны кінуць феерверк Канцавой Гандзі проста пад спадніцу. Сімвалічна каб справу завяршыць. Бо гарачая баба Гандзя, скарб такі — і нестарая, і нябрыдкая, і нябедная — словам, пенсіянерка. Ці ж можа такая ў вёсцы змарнавацца? А ад Кастэнтавага вока дабро не ўпільнуецца. Адно крыху цяжкі ён на слова, каб Гандзі сказаць пра пачуцці. Паколькі чалавек ён з гумарам, рашыў распаліць Гандзіны страсці, як і належыцца, у наваголні час феерверкам, купленым у Гайнаўцы.

Ішла само Гандзя да Таццяны на тэлевізар (тая мае на хаце антэну-талерку, увесь свет бачыш як на далоні), паглядзець як святкуюць у Еўропе, Азіі да Амерыцы, а тут раптам як не закруціцца штосьці, як не зашыпіць пару метраў ад яе!.. Завішчаў немым голасам сусед, ашчэрыўся! А ўсё ж зрабіў як было ў інструкцыі, каб і бяспечна, і эфект быў, а тут наце: як не свісне, як не жахне, як не бухне, як не запячэ! Аслеп, задавалася, ад болю Кастэнты!

Добра, што хоць толькі тры пальцы страціў. Бо калі б што важнейшае! Колькі крыві з мяккага цела ўпусіў бы!..

Гандзя скочыла званіць па скорую. Само тэлефанізацыя Гайнаўшчыны ў час трапілася — зараз і скорая прымчалася, падхапілі кавалера на насілкі, пальцы ў фольгавы мяшочак прыхапіўшы...

Пальцы прышылі ў Беластоку, трошкі, праўда, памыліўшы чарговасць. Усе пяць Кастэнты мае, як пяць клёпак у галаве, смяюцца суседзі. Колькі смеху і жартаў у вёсцы на пацеху! Што там смех! Галоўнае, што Гандзя ўрэшце даведалася пра палымяныя пачуцці суседа, і мае яго — героя дзвюх войнаў, былога артылерыста, сапёра, партызана і піратэхніка — цэлага, камплектнага, з усім на свеце вачым.

**Міра Лукша**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Да госця ў кавярні падыходзіць афіцыянт:

— Гэты столік браніраваны!

— Тады забярыце яго і прынясіце мне другі.

* * *

— Якая жанчына заслугоўвае на званне ідэальнай жонкі?

— Верная і такая старанная, быццам бы здраджвала мужу кожны дзень.

* * *

— Што б ты зрабіла, — пытае хлопец дзяўчыну, — калі б я цяпер цябе абняў і пацалаваў?

— Паклікала б свайго татку.

— Мне здалося, што твой тата недзе выйшаў...

— Пэўна, што выйшаў... І не хутка вернецца.

* * *

На лавачцы ў парку сядзіць жанчына. Падыходзіць мужчына, сядае побач і звяртаецца да жанчыны:

— Вы адзінокая тут і не баіцеся? А калі б вас нехта згвалтаваў?

— Тады б я крычала...

Мужчына адвярнуўся, выняў газету і стаў чытаць. Праз хвіліну жанчына набірае паветра і летуценна ўздыхае:

— Ой, як мне хочацца крычаць...